## Дзеці беларускіх топ-чыноўнікаў: ад эканамістаў да дыпламатаў







№ 7 (892) 18 лютага 2015 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

«Наша Ніва» сабрала інфармацыю пра дзяцей і ўнукаў найвышэйшых урадоўцаў. Дзе яны вучыліся і дзе працуюць цяпер?

Старонкі 4—5

# «А ўсе зразумелі»

Пяцьдзясят адценняў Мінскага саміту. Што засталося па-за ўвагай тэлевізійных навін. Старонка 3.



### «Ничто на земле не проходит бесследно»: ЕС унёс у чорны спіс Іосіфа Кабзона



Старонка 7

### 12 урокаў беларускага войска



Старонка 14

### Канечне падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2**.

# Беларускамоўная маці: Вырасціць сына, які размаўляе на «матчынай» мове, аказалася задачай нерэальнай

Дома малы чуў і беларускую, і рускую мову, але зонт называў парасонам, а замест складанага слова «велосипед» казаў «ровар». Руская мова ў першую чаргу была мовай мультфільмаў, якія па-беларуску ніхто не агучвае. У два з паловай года мы пайшлі ў дзіцячы садок: у нашым раёне Мінска ясельныя групы толькі рускамоўныя.


TUT.BY

### Беларускі лагапед і беларуская мова

Пра гэту праблему чытаць не даводзілася, а закрануць яе варта. Старэйшы сын займаўся з трыма лагапедамі і ў адказ на папярэджанне, што мама размаўляе па-беларуску, праз некалькі тыдняў даводзілася чуць катэгарычную параду: «Общайтесь с ребенком на русском языке, не надо его путать!»

Трэба адзначыць, што ў час медыцынскіх кансультацый ніхто не звязваў затрымку ў развіцці маўлення з двухмоўем у сям'і. Да гэтага часу ў Беларусі нямала дзяцей расце ў сем'ях, дзе нехта размаўляе прынамсі на трасянцы, што ў прынцыпе не замінае моўнаму развіццю, хаця і адбіваецца на вымаўленні. На занятках з лагапедам перашкаджаў хутчэй не беларускі «акцэнт», а беларускія словы. На выяву петуха сын казаў «певень», замест сапогов — боты, замест цветка — кветка.

«Пусть ребенок научиться слушать и правильно произносить звуки, а когда вырастет — будет говорить, как ему нравится». Пры гэтым мяккае -ць у дзеясловах ці адсутнасць гука -й у канчатках прыметнікаў мужчынскага роду нязменна выпраўлялася як памылка. Чаму менавіта на рускіх словах мы павінны вучыцца размаўляць? Ці існуюць праграмы навучання для дзяцей-білінгваў, якія часцей чуюць беларускую, чым рускую мову?

Гэтыя пытанні так і застаюцца без адказу: магчыма, у нашай краіне існуюць спецыялісты, якія карэктна працуюць з дзецьмі-білінгвамі і арыентуюцца на практыку замежных калег, — але мы такога лагапеда не адшукалі.

На паведамленне пра тое, што дзіця расце ў сям'і з «матчынай» беларускай мовай ніхто з педагогаў не рэагаваў адмоўна. «По-белорусскому разговариваете? Это хорошо. Ну заходи в группу, завтрак остывает». За чатыры гады дзіцячых садкоў выхавацелі пры мне ніколі не звярнуліся да сына па-беларуску, ніколі ў размове са мной ці з ім не перайшлі на беларускую мову. У лагапедычнай групе няма заняткаў па беларускай мове і нават на навагодніх ранішніках ніколі не давялося пачуць беларускі вершык ці песеньку. Нібыта наш садок месціцца не ў Беларусі, а ў Смаленску ці Маскве, і даўно не існуе беларускай мовы ці нейкай там адметнай культуры.

Так мы і раслі без ніякай інклюзіі: «Кончится садик — пойдете в белорусскую гимназию, она ведь рядом!» — абнадзейвалі нас педагогі. Беларускамоўная гімназія сапраўды знаходзіцца за некалькі прыпынкаў ад дома. Побач з ёю ёсць і беларускамоўны садок, да якога ўжо падрастаў малодшы сын.

### Месцаў няма!

За паўгода да першага верасня я патэлефанавала дырэктару беларускамоўнай гімназіі, каб удакладніць, як і калі запісацца ў першы клас. Дырэктар паведаміў наступнае: «Спісы будучых першакласнікаў даўно складзены, бацькі ўжо два гады стаяць у чарзе. Па прапісцы вы да нашай гімназіі не належыце, ідзіце ў найбліжэйшую школу, там беларуская мова таксама ёсць. А праз чатыры гады паступайце да нас!».

**Беларускія школы зачыняюцца як непатрэбныя, але трапіць у адзіную на раёне беларускую гімназію немагчыма**

У раённы аддзел адукацыі быў дасланы электронны ліст, і ў адказе паведамлялася, што адзіная адукацыйная ўстанова, якая забяспечвае атрыманне адукацыі на беларускай мове, — гэта вышэйзгаданая гімназія. Адпаведна, ніякіх іншых беларускамоўных першых класаў у нашым раёне няма. Крыху пазней высветлілася, што ў беларускамоўны садок малодшага сына таксама не бяруць: месцаў няма, групы перапоўненыя.

Як гэта зразумець? Беларускамоўныя адукацыйныя ўстановы зачыняюцца як непатрэбныя, але трапіць у адзіную на раёне беларускамоўную гімназію немагчыма, бо жадаючых больш, чым трэба.

Было б выдатна, каб у аддзеле адукацыі меўся спецыяліст, які збірае інфармацыю пра беларускамоўныя сем'і, падтрымлівае стасункі як з бацькамі, так і з дырэктарамі школ і дапамагае ў рэалізацыі канстытуцыйнага права на беларускамоўную адукацыю. Каб бацькоў сустракалі не спалоханымі вачыма, а добразычлівай размовай.

### Што атрымалася?

Пакуль што мы пайшлі ў звычайную сярэднюю школу і ў звычайны садок. Настаўніца кажа, што сын — адзіны вучань у класе, які разумее беларускі тэкст і можа адразу адказаць на пытанні. Для астатніх простыя апавяданні даводзіцца перакладаць са слоўнікам. У свядомасці сына беларуская мова ляжыць пасіўным лексічным багажом, ён размаўляе па-руску. Лагапедычныя заняткі працягваюцца, і ён ужо правільна паўтарае словы «пуговица», «скворец» і «часовщик».

Пасля вечаровага чытання народных казак ці сустрэчы з беларускамоўнымі сябрамі сын часам кажа «дабранач» ці «добрай раніцы». Але на просьбу «калі ласка, памый посуд» часта паведамляе:

— А ты скажи «пожалуйста» — тогда помою!

Калі ў сына кепскі настрой, ён часам пачынае злавацца: «Мама, разговаривай нормально, разговаривай, как все!» Магчыма, праз гадоў пяць ён зразумее, што беларуская мова — самая нармальная для жыхара нашай краіны.

Часта можна пачуць, што ў Беларусі ніхто не забараняе размаўляць па-беларуску — і гэта сапраўды так. Але вырасціць сына, які прынамсі дома размаўляе на «матчынай» мове, аказалася задачай нерэальнай. Калі мець больш часу, ды сродкаў, ды адзінае дзіця ў сям'і, вынікі маглі быць больш аптымістычнымі. Атрымліваецца, каб дзеці размаўлялі па-беларуску, трэба прыкладаць нямала намаганняў. І пры гэтым дакладна ўсведамляць, што калі праз пятнаццаць гадоў беларускамоўны сын адвучыцца і прыйдзе працаваць, яму ўсміхнуцца і скажуць: «Белорусский — очень хорошо. Но только не на работе. Правда?»

**Алеся Лапіцкая, маці дваіх дзяцей; tut.by**

## Сцісла

### П'яны муж забіў жонку манціроўкай

Раніцай 16 лютага ў Брэсце ва ўласнай кватэры знойдзены труп 28-гадовай жанчыны са слядамі збіцця. Яна знаходзілася ў адпачынку па доглядзе за дзіцем. Пасля сумеснага распіцця спіртных напояў яе манціроўкай забіў муж. Падазраваны затрыманы.

### Расейцы знайшлі бактэрыі ў прадукцыі «Санта Брэмар»

Пад увагу расійскіх кантрольных органаў трапіла філе слабасалёнай сёмгі беларускай вытворчасці. У ім нібыта былі знойдзеныя бактэрыі лістэрыі. У сувязі з гэтым Рассельгаснагляд узмацніў лабараторны кантроль за пастаўкамі прадукцыі «Санта Брэмар».

### Дэльта Янцзы стала першым у свеце гігаполісам

Вялікая Шанхайская агламерацыя дасягнула насельніцтва ў 100 мільёнаў чалавек. У яе ўваходзяць мегаполіс Шанхай з насельніцтвам у 24 млн чалавек, 8-мільённыя Нантынь і Ханчжоў ды два дзясяткі іншых мільённікаў. Рэгіён стаў эканамічнай сталіцай Кітая, яго сумарны ВУП перавысіў $1 трыльён.

### Найлепшага булачніка Францыі асудзілі за тое, што шмат працаваў

Стэфан Казнаў — уладальнік тытула «Найлепшы багет — 2014» — атрымаў спагнанне за тое, што занадта працаваў — яго булачная была адчынена сем дзён у тыдзень, а гэта па французскіх законах забаронена. Яго прымусілі зачыняць булачную па панядзелках.

### Зарплата Глеба — $135 тысяч

Паводле інфармацыі турэцкіх СМІ, заробак беларускага футбаліста Аляксандра Глеба ў турэцкім «Генчлербірлігі» складае каля $135 тысяч на месяц. Апроч таго, за разрыў кантракта з папярэднім клубам, «Каньяспорам», Глеб атрымаў больш за 900 тысяч.

**ЯМ, АА**

## Апытанні на nn.by

### Ці бывалі Вы за мяжой у 2014 годзе?

| | | |
|---|---|---|
| Так | 1116 | 63% |
| Так, але толькі ў Расіі | 104 | 6% |
| Не | 528 | 30% |
| Не памятаю | 22 | 1% |

Прагаласавала 1770 чалавек

## Самае чытанае на nn.by за 11—17 лютага

1. 16-гадзінныя мінскія перамовы скончыліся дамоўленасцю пра спыненне агню
2. Відэазапіс з кулуараў мінскіх перамоваў. Парашэнка: «Ён брудна гуляе»
3. Як журналісты тэлеканала «Расія-24» у Мінску закрылі рот
4. На перамовах у Мінску Лукашэнка паставіў Пуціна ў няёмкае становішча
5. «Я не понимаю по-белорусски»
6. Жыхарка Мінска выказала стаўленне да аператара Lifenews
7. Баевікі «Ісламскай дзяржавы» адрэзалі галовы 21 хрысціяніну
8. Сяменчанка: У Логвінаве ідуць баі, украінцы спрабуюць разарваць «дэбальцаўскі кацёл»
9. Перакладчык Януковіча расказаў анекдатычную гісторыю, як той размаўляў з Абамам
10. Андрэй Макарэвіч падрыхтаваў Пуціну ў Мінску своеасаблівы сюрпрыз

# Пяцьдзясят адценняў Мінскага саміту

«Наша Ніва» сабрала **самае цікавае**, што адбывалася на сустрэчы ў Мінску і ў яе кулуарах — у тым ліку тое, пра што не паведамляла тэлебачанне.



**1. 16 гадзін доўжыліся** перамовы Уладзіміра Пуціна, Пятра Парашэнкі, Ангелы Меркель і Франсуа Аланда ў мінскім Палацы Незалежнасці. Кіраўнікі чатырох краін дамаўляліся ад 18 гадзіны вечара да 10 гадзіны раніцы, без сну.

**2. Лукашэнка сустракаў** і праважаў гасцей, але ў саміх перамовах удзелу не браў.

**3. У інтэрнэце ўсё гадалі,** ці глядзеў альбо слухаў Лукашэнка перамовы «нармандскай чацвёркі».

**4. У першыя гадзіны** Меркель і Аланд, відаць, спрабавалі зрабіць усё, каб Парашэнка і Пуцін пачалі хоць неяк размаўляць. Спачатку яны бегалі па палацы ў пошуках Пуціна. Потым вярнуліся да Парашэнкі, а Пуцін пазней далучыўся да іх.

**5. У залу перамоваў** Парашэнка ішоў у кампаніі Меркель і Аланда, а Пуцін — з Лукашэнкам.

**6. Бакі дамовіліся** аб спыненні агню ва Украіне ад 00:00 15 лютага.

**7. Дасягнутая дамоўленасць** аб вызваленні ўсіх закладнікаў. І ўсеагульнай амністыі.

**8. Пятро Парашэнка** даў гарантыю, што амністыя не будзе распаўсюджвацца на тых, хто збіў малайзійскі «Боінг».

**9. Будзе** ўтвораная 140-кіламетровая буферная зона для ракетных сістэм залпавага агню.

**10. Канчатковы дакумент** налічвае 13 пунктаў.

**11. Пункт 4** прадугледжвае наданне «ЛНР» і «ДНР» «асаблівага статусу», якога менавіта, пакуль не абгаворваецца. Гэтае рашэнне павінна прыняць Вярхоўная Рада. Фактычна, гэта прымушае Кіеў прызнаць дэ-факта кіраўніцтва «ЛНР» і «ДНР».

**12. Украіна хацела,** каб лінія размежавання была такой, пра якую дамаўляліся ў верасні. У той жа час Расія патрабавала, каб баевікі пакінулі сабе тэрыторыі, заваяваныя з верасня да лютага.

**13. Расія настойвала,** што ва Украіне няма расійскіх вайскоўцаў і тэхнікі.

**14. У пэўны момант,** пад ранак, украінскія журналісты атрымалі сігнал, што перамовы праваліліся. Яны сталі чакаць брыфінгу Пятра Парашэнкі, але праз паўгадзіны ім сказалі, што перамовы працягнуцца.

**15. Міністр** замежных спраў Украіны Павел Клімкін у пятніцу аб'явіў у кіеўскім парламенце: «Некалькі разоў падчас перамоваў было жаданне і ў нас, і ў нашых калег з Германіі і Францыі спыніць перамовы».

**16. Пуцін** першым па выніках перамоваў выйшаў да прадстаўнікоў СМІ. Здаецца, ён быў задаволены. Хоць і сказаў, што ноч была цяжкой. Пуцін гаварыў аб неабходнасці канстытуцыйных рэформаў ва Украіне.

**17. «Цяжкае ўзбраенне** будзе адведзена ад сённяшняй лініі судакранання для Кіева, а для апалчэнцаў — ад лініі за 19 верасня», — сказаў Пуцін.



Меркель і Аланд пазуюць пасля 16-гадзінных начных перамоваў.

**18. Кіраўнікі «ДНР» і «ЛНР»** Захарчанка і Платніцкі, якія ў гэты час знаходзіліся ў Мінску, падпісалі мемарандум «нармандскай чацвёркі». Праўда, спачатку доўга ламаліся — для прыліку ці сапраўдна. Была «нямая сцэна», расказаў украінскі перамоўнік, экс-прэзідэнт Кучма.

**19. «Інфармаваць»** лідараў «ДНР» і «ЛНР» адпраўляўся памочнік прэзідэнта Расіі Уладзіслаў Суркоў.

**20. Акрамя Пуціна і Суркова,** у расійскую дэлегацыю ўваходзілі міністр замежных спраў Сяргей Лаўроў, яго намеснік Георгій Карасін, памочнік прэзідэнта Юрый Ушакоў, намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта — прэс-сакратар прэзідэнта Дзмітрый Пяскоў.

**21. Сяргей Лаўроў**, міністр замежных спраў Расіі, на гэты раз аказаўся амаль не пры справе, але ўсю ноч быў у гуморы, хадзіў і жартаваў: «Нас паклікалі паесці сала».

**22. Расія патрабавала** федэралізацыі Украіны. Аднак Украіна не пагадзілася запісаць словы «аўтаномія» ці «федэралізацыя» Данбаса ў выніковых дамоўленасцi.

**23. Парашэнка не раз выходзіў** з залы пасяджэння для тэрміновых перамоваў з Генштабам Украіны.

**24. «Парашэнка з самага пачатку** паводзіў сябе як чалавек, які спяшаецца. Памочнік сказаў, што ён спазніўся на самалёт да Мінска і, апынуўшыся на борце, прыспешыў: «Давайце хутчэй узлятаць, мы спазняемся!» — напісала агенцтва Reuters.

**25. Калі Парашэнка прыбыў** у палац, на яго літаральна накінуўся натоўп журналістаў. Служба бяспекі стварала яму калідор, і адзін з аператараў упаў. Украінскі лідар дапамог яму ўстаць са словамі: «Прабачце, калі ласка».

**26.** Аланд і Меркель пакінулі Мінск без заяваў, але задаволенымі.

**27. «Пуцін націснуў** на сепаратыстаў, каб тыя спынілі агонь», — сказала Ангела Меркель пасля вяртання ў Берлін.

**28. «Гэта сур'ёзная надзея,** — сказаў Аланд. — Гэта вялікая палёгка для Еўропы».

**29. «Аланд і Меркель** часцей былі ў ролі слухачоў, пасярэднікаў, — сказала крыніца ў французскай дэлегацыі. — Для Парашэнкі і ўкраінцаў гэта былі балючыя перамовы, улічваючы сітуацыю, аднак Пуцін і Парашэнка не маюць асабістай варожасці».

**30. «Адзіны станоўчы вынік** мінскіх пратаколаў — магчымае спыненне агню. У астатнім Пуцін атрымаў практычна ўсё, што хацеў. Пры гэтым не ўзяў на сябе ніякіх забавязанняў. Усе забавязанні ўзяла на сябе Украіна», — напісаў былы памочнік Пуціна Андрэй Ілларыёнаў.

**31. А вось расійскі палітолаг** Барыс Вішнеўскі іншага меркавання. Ён перакананы: сам факт перамоваў пасля года падрыўной дзейнасці, эканамічнай блакады і адкрытай вайны «засведчыў, што Пуціну не ўдалося скрышыць Украіну».

**32. Лукашэнка падарыў** Ангеле Меркель невялікі букет.

**33. Тым не менш** кіраўнік Беларусі кажа, што не спадзяецца на паляпшэнне адносін з Захадам.

**34. «Шчыра вам скажу**, я не чакаў, што Аланд — дабрак», — сказаў Аляксандр Лукашэнка ў інтэрв'ю вядучаму праграмы «Вести в субботу» Сяргею Брылёву. «Што тычыцца Ангелы Меркель, у яе чалавечнасць ідзе наперадзе ўсіх іншых якасцяў. ... Але ж вы не будзеце адмаўляць, што, дзякуючы яе матарнасці, дамагліся тут вынікаў», — адзначыў Лукашэнка.

**35. А яшчэ** кіраўнік Беларусі так прагнуў паразмаўляць з канцлеркай Германіі, што нават не заўважыў, што трымае крэсла і не дае прэзідэнту Расіі яго пасунуць. Забаўны відэазапіс гэтага моманту стаў хітом інтэрнэту. Інтэрнаўты падпісвалі яго: «Крым ваш, а стул наш!»

**36. На відэа выпадкова трапіла** размова лідараў Украіны і Беларусі ў кулуарах. «Цяжка. Ён вядзе несумленную і брудную гульню», — кажа Парашэнка. «Я ведаю... А ўсе гэта зразумелі», — спагадліва адказвае Лукашэнка. Парашэнка дадае: «Ён усюды яе вядзе». Выглядала, што гаварылі пра Пуціна.

**37.** Прэзідэнтка Літвы Даля Грыбаўскайце назвала мінскія дамоўленасці «вельмі слабымі».

**38. Амерыканскі часопіс** Time ў той самы дзень назваў Кітай галоўным пераможцам у супрацьстаянні Захаду і Расіі. Кітай зможа стаць больш жорсткім у перамовах з Расіяй і нармалізаваць адносіны з Захадам.

**39. Лукашэнка сказаў**, што ўдзельнікі саміту елі яешню, малочныя прадукты, сыры, выпілі некалькі вёдраў кавы. Сам кіраўнік Беларусі сказаў, што ягонай місіяй было падносіць прадукты.

**40. Прарывам** «мінскія дамоўленасці» назваў былы прэзідэнт Украіны Леанід Кучма, які бярэ ўдзел у кантактнай групе па ўрэгуляванні канфлікту. На ягоную думку, Расіі прыйшлося прызнаць той факт, што яна стаіць за «ДНР» і «ЛНР».

**41. Журналісты тэлеканала «Расія» заткнулі рот.** Калі дзяўчына спрабавала задаць пытанне Пятру Парашэнку ў неналежным месцы, яе ў момант пяшчотна «абняў» супрацоўнік службы аховы Лукашэнкі. Прыціснуў яе вусны да свайго пляча так, што яна не магла вымавіць ні слова. Ахоўнік пры гэтым прагаворваў: «Ціха, ціха».

**42. З іншым журналістам** тэлеканала «Расія» служба аховы правяла прафілактычную гутарку, калі той спытаўся Парашэнку: «Чаму вы бамбіце гарады?»

**43. Вядомы расійскі прапагандыст** Дзмітрый Кісялёў сказаў, што з расійскімі журналістамі ў Мінску абыходзіліся «бесцырымонна і дзіка». У беларускім жа інтэрнэце людзі называлі паводзіны расійскіх журналістаў хамскімі і правакацыйнымі.

**44. Журналіст скандальнага тэлеканала Lifenews** увогуле пачаў брахаць на калег у фае палаца. Як сабака: гаў-гаў! Ахоўніка яго папярэдзілі.

**45. Карэспандэнт «Нашай Нівы»** стаў сведкам наступнай сцэнкі. Журналісты стаялі ля плота каля рэзідэнцыі на вуліцы Фрунзэ, дзе ідуць перамовы кантактнай групы па Украіне. Жанчына шпацыруе з двума сабачкамі. Яны з нейкай прычыны пачынаюць моцна брахаць у бок журналістаў. «Как их зовут-то?» — пытаецца аператар Lifenews. «Гэтая — Слава, а вось тая — Украіне. Зразумелі?» — адказвае гаспадыня.

**46. Увогуле ж** журналістаў, што начавалі ў палацы, пакармілі вячэрай, у тым ліку мясам. А яшчэ паілі шампанскім.

**47.** Відэакамеры зафіксавалі, як Пуцін зламаў аловак.

**48. На раніцу** 12 лютага ў Палацы Незалежнасці прысутнічаў малодшы сын Лукашэнкі Мікалай.

**49. Перамір'е** пакуль выконваецца толькі часткова. Ідуць жорсткія баі за Дэбальцава. Расійскія сілы імкнуцца захапіць мясцовую чыгуначную развязку, якая мае вялікае транспартнае значэнне.

**50. 16 лютага** Еўрасаюз упершыню назваў «апалчэнцаў Данбаса» «расійскімі войскамі» ў сваім афіцыйным дакуменце.

**Зміцер Панкавец**

# Дзеці беларускіх топ-чыноўнікаў:

**Дзе працуюць** члены сем'яў наменклатурнай эліты.

Мала хто з чыноўнікаў, нават маладых, заводзіць акаўнты ў сацыяльных сетках — такая адкрытасць неўласцівая беларускай палітычнай культуры. А вось дзеці наменклатуры не адмаўляюць сабе ў такім задавальненні. Яны з радасцю дзеляцца з іншымі інтэрнэт-карыстальнікамі асабістымі здымкамі і расказваюць пра свае хобі.

«Наша Ніва» сабрала інфармацыю пра дзяцей і ўнукаў найвышэйшых урадоўцаў. Дзе яны вучыліся і дзе працуюць цяпер?


Вера Кабякова.


Георгій Кабякоў.

54-гадовы **Андрэй Кабякоў** цяпер прэм'ер-міністр, другая асоба краіны. Жыццё чыноўніка шчыльна звязанае з Расіяй: адтуль ягоныя бацькі, там нарадзіліся ягоная жонка і ён сам. У Маскве Кабякоў вучыўся ў авіяцыйным інстытуце, а ў 2011—2012 працаваў беларускім паслом.

У анкеце 29-гадовай дачкі Веры ў сацыяльнай сетцы «Укантакце» пазначана, што яна скончыла 24-ю мінскую лінгвістычную гімназію, вучылася на геалагічным факультэце МГУ. Завочна Кабякова атрымала дыплом прыборабудаўнічага факультэта БНТУ і ўладкавалася... у Нацбанк. Там яна працавала вядучым эканамістам, а ў 2012-м перайшла галоўным спецыялістам-экспертам у «БПС-Сбербанк». Кабякоў казаў у інтэрв'ю, што ягоная дачка ўжо пабралася шлюбам.

Золата на кубку СНД па таэквандо (неалімпійская версія) у снежні 2014 заваяваў Георгій Кабякоў. Гэта малодшы сын прэм'ер-міністра. Сёлета хлопцу споўніцца 17 гадоў.


Аляксандр і Мікалай Лукашэнкі.


Дзмітрый Лукашэнка з сям'ёй.



Віктар Лукашэнка з жонкай і дзецьмі.

Галоўная сям'я краіны складаецца з 60-гадовага **Аляксандра Лукашэнкі** і трох ягоных сыноў. Старэйшаму, Віктару, сёлета споўніцца 40 гадоў. Апошняе дзесяцігоддзе ён працуе памочнікам бацькі па нацыянальнай палітыцы.

У сям'і Віктара ўжо чацвёра дзяцей. Дачка Вікторыя праславілася пасля здымкаў камедыі «На спіне ў чорнага ката». Цяпер ёй 17 гадоў. 10-гадовы Аляксандр сёлета выйграў Калядны турнір па спартыўна-баявых адзінаборствах на прызы мітрапаліта Філарэта. Валерыя і Яраслаў у школу яшчэ не ходзяць.

Дзмітрый Лукашэнка ўзначальвае Прэзідэнцкі спартыўны клуб. Ён таксама шматдзетны бацька. Старэйшыя дзеці, Дар'я і Настасся, пазалетась перамаглі ў конкурсе беларускамоўных казак, а два месяцы таму яшчэ і ў конкурсе інструментальнай музыкі «Маладыя таленты Беларусі». Малодшай дачцэ, Аляксандры, пакуль менш за год.

Малодшы сын кіраўніка дзяржавы Мікалай пакуль што школьнік.


Уладзімір Косінец.

Новы кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта **Аляксандр Косінец** па прафесіі хірург. Яму цяпер 55 гадоў. Чыноўнік абараніў доктарскую дысертацыю па лячэнні гнойных ускладненняў на органах брушной поласці, калі яму было 34 гады.

Ягоны сын Уладзімір атрымаў такую ж навуковую ступень яшчэ маладзейшым, у 31 год. Спецыялізацыя Косінца-малодшага — пластычная хірургія.

Уладзімір паступіў на лячэбны факультэт Віцебскага медыцынскага ўніверсітэта, калі ягоны бацька быў рэктарам. З цягам часу Аляксандра Косінца перавялі ў Мінск на пасаду віцэ-прэм'ера, а сын застаўся давучвацца ў Віцебску. Уладзімір скончыў аспірантуру, абараніў кандыдацкую дысертацыю, а пасля з'ехаў у Расію. Там ён і стаў доктарам медыцынскіх навук.

Цяпер ён узначальвае эстэтычную клініку Еўрапейскага медыцынскага цэнтра ў Маскве. Аперацыя па павелічэнні грудзей ва Уладзіміра Косінца каштуе каля $3500, пластыка твару — $2500.

Адзіны сын першага віцэ-прэм'ера **Васіля Мацюшэўскага** і ягонай жонкі, доктара эканамічных навук Алены Давыдзенкі, рыхтуецца стаць фінансістам. Сёлета Ян скончае навучанне ў БДУ.


Вольга Качанава.


Алена Качанава.

Да прызначэння на пасаду віцэ-прэм'ера, адказнага за сацыяльныя пытанні, 54-гадовая **Наталля Качанава** была старшынёй Навапалацкага гарвыканкама.

На малой радзіме засталася яе малодшая дачка Алена. Яна скончыла полацкую гімназію, а цяпер вучыцца на гісторыка-філалагічным факультэце Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта. За поспехі ў навучанні дзяўчыне сталі налічваць персанальную стыпендыю Рады ўніверсітэта.

Яе старэйшая сястра Вольга вучылася ў Мінску на доктара. У медуніверсітэце яна пазнаёмілася са сваім будучым мужам. Абое — педыятры. Цяпер маладыя гадуюць дзіця.


Юлія Русая.


Таццяна Русая.

60-гадовы віцэ-прэм'ер **Міхаіл Русы** галоўны ў краіне па сельскай гаспадарцы. У ягонай сям'і двое дачкі.

Старэйшая, Таццяна, скончыла факультэт тэхналогіі арганічных рэчываў БДТУ, а малодшая Юлія вучылася на фінансіста ў БДЭУ.

Ва ўрадзе віцэ-прэм'ер **Анатоль Калінін** адказвае за транспарт і будаўніцтва. Ягоная дачка Алена — загадчыца аддзялення медыка-генетычнага кансультавання РНПЦ «Маці і дзіця». Яе малодшы брат Віталь, па словах сваякоў, займаецца бізнэсам.

Адзіны сын старшыні Цэнтральнай выбарчай камісіі **Лідзіі Ярмошынай** па-ранейшаму працуе ў Мінскай абласной калегіі адвакатаў. Аляксей цяпер жыве асобна ад маці. «Частку ежы я дастаўляю ў кантэйнерах свайму сыну… Прывожу вялікую асноўную страву, якую можна разаграваць на працягу двух-трох дзён», — не забываецца яна пра Аляксея.

# ад эканамістаў да дыпламатаў


Юлія Раўкова

47-гадовы міністр абароны **Андрэй Раўкоў** пры пасадзе ўсяго некалькі месяцаў. 25-гадовая дачка міністра паступіла ў БДЭУ. Яшчэ падчас вучобы яна выйшла замуж. Цяпер Юлія гадуе малую дачку. Яе хобі — выраб упрыгожванняў з лямцу. Пасля таго, як бацька стаў міністрам, Юлія змяніла прозвішча ў сацыяльных сетках.




Уладзімір і Ірына Калаўры.



У старшыні праўлення Нацбанка **Паўла Калаўра** і галоўнай бухгалтаркі банка «Масква—Мінск» Ларысы Калаўр двое сыноў, абодва працуюць у банкаўскай сферы. Уладзіміру 29 гадоў, разам з жонкай Ірынай ён гадуе дзвюх дачок.

Аляксею, выпускніку БДЭУ, на год менш. Ягонае імя фігуравала ў якасці галоўнага менеджара «БПС-Сбербанка». Нейкі час банкір папрацаваў у Расіі.


Румасы злева направа: Сяргей-малодшы, Максім і Сяргей-старэйшы.


Валерый Румас.

У сям'і кіраўніка дзяржаўнага Банка развіцця **Сяргея Румаса** і стаматолага прыватнага медцэнтра «Карона» Жанны Румас чацвёра сыноў.

Паводле інфармацыі «Народнай волі», старэйшы, Валерый, скончыў эканамічны факультэт БДУ, а пасля разам з жонкай Настассяй вучыўся ў лонданскай Cass Business School. Цяпер маладая сям'я вярнулася ў Беларусь.

Сяргей і Максім Румасы — школьнікі, а Піліп яшчэ зусім малы.



Віталь Макей.

Старэйшы сын міністра замежных спраў **Уладзіміра Макея** пайшоў па бацькавым дыпламатычным шляху. Раней Віталь працаваў у Вене, а цяпер — у Нью-Ёрку. Ён дарадца па эканамічных і экалагічных пытаннях у прадстаўніцтве Беларусі ў ААН. Цікава, што Віталь абраў сабе дзіўную транскрыпцыю прозвішча, адрозную ад бацькі — Mackay.

Разам з жонкай Маргарытай ён гадуе дачку Марыю. Нявестка міністра раней была эканамістам у «Белавія», абараніла кандыдацкую дысертацыю з прапановамі па ўдасканаленні працы авіякампаній.

Другім шлюбам Уладзімір Макей пабраўся з актрысай і тэлевядучай Верай Паляковай. Іх сын Арцём сёлета мае пайсці ў першы клас. Цешча міністра — прарэктарка ў Інстытуце фізкультуры.




Вера Палякова — жонка Уладзіміра Макея.


Маргарыта — жонка Віталя Макея.


Другі ўнук Аляксандра Радзькова, Кірыл, займаецца хакеем. Хлопец марыць выступаць за зборную Беларусі і зрабіў са сваім фота вось такі калаж.


Павел Ігнаценка.



Былы міністр адукацыі і кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта **Аляксандр Радзькоў** цяпер памочнік Аляксандра Лукашэнкі. 63-гадовы матэматык-педагог узначальвае канцылярыю кіраўніка краіны. Застаецца ён і лідарам «Белай Русі».

У Радзькова дзве дачкі. Пра малодшую ён узгадваў, што тая скончыла ін'яз і працуе на радыёстанцыі «Беларусь».

Старэйшая, Наталля Ігнаценка, жыве ў Маскве і працуе настаўніцай у музычнай школе. А ў Беларусі выдаюцца яе творы, летась выйшла кніга «Як два браты спартсменамі сталі». Дзеці пісьменніцы насамрэч звязаныя са спортам.

Павел Ігнаценка, хоць і жыве ў Маскве, выступае за Беларусь. Ён найлепшы фігурыст краіны, праўда, на сёлетнім чэмпіянаце Еўропы заняў толькі 21-е месца сярод 24-х удзельнікаў. Паралельна ён завочна вучыцца ў Расійскім дзяржаўным універсітэце фізкультуры і спорту.

**Ягор Марціновіч,**
**фота з сацыяльных сетак**

# «Што хочаце рабіце, але грошай усё роўна няма»

**Работнікам не выплачваюць зарплату, што рабіць?**

Дзяржава нічога не можа зрабіць з нядобрасумленнымі працадаўцамі, якія не разлічваюцца са сваімі супрацоўнікамі. Судовыя пастановы няцяжка абысці ці проста праігнараваць. А людзі чакаюць сваіх грошай і па сёння: хтосьці некалькі месяцаў, хтосьці амаль год. Многія ўжо і не спадзяюцца іх атрымаць.

### Вокны ў нікуды

«Ужо больш за 6 месяцаў мы не можам атрымаць свой заробак», — рапаскардзіўся ў «Нашу Ніву» Уладзімір, былы супрацоўнік **ТАА «Мінскі дом вокнаў»**.

У жніўні 2014 ён уладкаваўся на прадпрыемства рабочым. Праблемы пачаліся ўжо праз месяц, калі прыйшоў час першага заробку замест абяцаных 6 мільёнаў мужчына атрымаў толькі 1 мільён. Прычым не толькі ён — поўныя сумы не далі нікому.

«Я працаваў на прадпрыемстве каля 6 гадоў, — кажа Максім, былы інжынер «Дома вокнаў». — Мінулай вясной перасталі даваць грошы на амартызацыю аўтамабіля, а напачатку лета перасталі плаціць заробак. Зусім. Нават камандзіроўкі я аплачваў са сваёй кішэні».

Кіраўніцтва папрасіла трошкі пачакаць, маўляў, з імі яшчэ не разлічыліся за працы ў аэрапорце.

Прайшоў месяц. Нічога не змянілася. Кіраўніцтва патлумачыла праблемы ўсё тымі ж кліентамі.

«Тады мы, рабочыя, спынілі працу на дзень. Да нас прыехаў генддырэктар Валерый Бардун і сказаў: «Што хочаце можаце са мной рабіць, але грошай усё роўна няма», — узгадвае Уладзімір.

Увосень з прадпрыемства звольнілася больш за 200 чалавек. Грошай не далі нікому. Былыя работнікі звярнуліся ў суд, які пастанавіў, што прадпрыемства павінна разлічыцца з людзьмі. Але ніхто так і не ўбачыў ні капейчыны.

Палова акцый прадпрыемства раней належала мільянеру Юрыю Чыжу, але ў снежні 2014 года ён пазбавіўся ад сваёй часткі активу. Акцыі ў яго набыў Дзмітрый Рублеўскі, уласнік **кампаніі «АксАлюмПро»**. Ён жа і стаў дырэктарам. Былы кіраўнік — Валерый Бардун — заняў пасаду намесніка па камерцыйных пытаннях. Але нічога не змянілася.

«У снежні я атрымала каля 1,5 мільёна рублёў, у студзені — яшчэ 1,2 мільёна. Вось і ўвесь мой заробак за паўгода, — кажа супрацоўніца прадпрыемства. — Тых, хто застаўся працаваць, абяцаюць афарміць як супрацоўнікаў «АксАлюмПро», каб мы маглі атрымліваць заробак, але на справе нічога не робіцца. Таму людзі звальняюцца. Калі ўлетку працавала 500—600 чалавек, то цяпер засталося каля 150».

«Калі людзі нешта атрымаюць? Я таксама хацеў бы ведаць. Тое, што магу, я раблю. Але ёсць дасудовыя і судовыя працэдуры, на якія я паўплываць не магу, — каментуе сітуацыю Дзмітрый Рублеўскі. — Што тычыцца цяперашніх работнікаў, то бюджэт пражытачнага мінімуму яны атрымліваюць. Суд дае дазвол, і мы ім плацім».

Па словах старэйшага судовага выканаўцы Леаніда Міхалевіча, які займаецца гэтай справай, хутка грошы могуць быць выплачаныя.

«Маёмасць прадпрыемства ўжо апісаная. Але яе рэалізацыю пакуль што спынілі. «Дом вокнаў» хоча частку абсталявання, якая будзе прададзена, замяніць іншым, — тлумачыць Міхалевіч. — 24 лютага будзе судовае пасяджэнне, на якім вырашыцца, ці дазволяць прадпрыемству такі манеўр. Грошы ад продажу праз канфіскат пойдуць на выплату запазычанасцяў былым супрацоўнікам».

### Дзіцячае адзенне і дарослае «кідалава»

Падобная бяда здарылася і з работніцай швейнай фабрыкі «Маруся», якая звярнулася ў «Нашу Ніву». Прадпрыемства абяцала добры заробак, але абяцанкі аказаліся цацанкамі.

«За тры месяцы маёй працы я атрымала толькі 1,3 мільёна рублёў — частку зарплаты за першы месяц. І ўсё, — кажа жанчына. — Многія ўвосень яшчэ не атрымалі ўсе грошы за май. Калі нехта выказваў незадаволенасць такой сітуацыяй, іншыя пыталіся, а як гэта табе будуць плаціць, калі ты абураешся? Маўляў, не трэба псаваць адносіны з начальствам, дык, можа, хоць нешта заплацяць. Кіраўніцтва «Марусі», у сваю чаргу, адказвала проста: грошай няма».

Праз тры месяцы бясплатнай працы жанчына звольнілася. Але разлічвацца з ёй «Маруся» не збіралася.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Тады былая супрацоўніца пайшла ў суд. Судовыя работнікі параілі падпісаць з прадпрыемствам міравое пагадненне, каб хутчэй атрымаць грошы. На працягу двух тыдняў «Маруся» мелася разлічыцца, але праігнаравала ўсе тэрміны. Грошы не выплачаныя і дагэтуль. Праз дзявальваю, яны ўжо і «патаннелі» на трацціну.

«Судовы выканаўца Ганна Дудко кажа, што на рахунках кампаніі грошай няма, апісаць маёмасць немагчыма — яна ў заставе. Але фірма працуе. Як — невядома», — кажа чытачка.

Як высветлілася, кампанія «Маруся» складаецца з некалькіх розных юрыдычных асобаў. У адносінах да адной з іх — СТАА «Маруся» — ужо ўвогуле распачата працэдура банкруцтва.

У 2011-м кіраўніца «Марусі» Марына Падабед заняла пятае месца ў рэйтынгу самых паспяховых бізнэс-лэдзі Беларусі. Цяпер Марына і яе муж Віктар Падабед могуць быць прыцягнутыя да адказнасці праз запазычанасць па крэдытах, якая, па розных дадзеных, складае ад 1 да 2 мільярдаў рублёў.

### Працу ацэншчыкаў ніхто не ацаніў

«Я ўжо і не чакаю, што мне заплацяць», — сумна пасміхаецца гродзенец Сяргей Клімовіч.

У маі 2014 года Сяргею, які займаўся ацэнкай аўтамабіляў, надакучыла працаваць без заробку на **мінскім прадпрыемстве «Белпрамацэнка»**. Далейшы ход падзей стандартны: ён звольніўся, пайшоў у суд, суд пастанавіў працадаўцу выплаціць грошы... Клімовіч не атрымаў нічога. І не толькі ён — калегі, якія таксама звольніліся, грошай не ўбачылі. Далей чаканне, новыя пастановы суда... Але ўсё дарма. «Белпрамацэнка» працягвала ігнараваць сваіх былых супрацоўнікаў. Агульная сума, якую прадпрыемства павінна выплаціць, ужо набліжаецца да мільярда рублёў.

«Усім абыякава. Да судовых выканаўцаў проста не дазвоніцца. Я нават скаргу на іх напісаў ва упраўленне юстыцыі, — кажа Клімовіч. — Хоць на грошы ўжо і не разлічваю, буду рыхтаваць ліст у Адміністрацыю прэзідэнта. Калі яны не адкажуць, то і ўсё. Няма ўжо ні часу, ні жадання з гэтым змагацца».

Алена Шэўчык, якая выконвала абавязкі дырэктара «Белпрамацэнкі», хутка ўзначаліла новае прадпрыемства — **«БПО-Экспертыза»**. Яно аказвае такія ж паслугі і нават працуе па былых тэлефонных нумарах «Белпрамацэнкі». Звязацца з Шэўчык немагчыма — мабільнік недаступны, а на працы яе няма.

### Прагноз не суцяшальны

«Калі фірма не плаціць грошай былым супрацоўнікам, але на ёй працуюць людзі, якія атрымліваюць заробак, то ўзнікае пытанне, адкуль гэтыя грошы бяруцца. У такой сітуацыі варта звяртацца ў пракуратуру. Такія паводзіны кіраўніцтва могуць разглядацца як махлярства — калі заснавальнік адкрывае іншую кантору менавіта каб не плаціць па запазычанасцях. Ацэньваюць гэта следчыя органы і суд. Мы падавалі такія заявы, і нам адмаўлялі, бо адным з крытэрыяў махлярства з'яўляецца намер, то бок калі асоба планавала выкарыстаць людзей і не заплаціць. А даказаць гэта вельмі цяжка, — каментуе адвакат Сяргей Зікрацкі. — Увогуле, прагноз не суцяшальны. Гісторыі, калі ў кіраўніцтва некалькі фірмаў ці калі яны кідаюць адну і адкрываюць іншую — не рэдкасць. І праваахоўныя органы за такія справы бяруцца вельмі неахвотна».

**Улад Швядовіч**

**По інфармацыі Белстата, па стане на 1 лютага 2015 года 277 арганізацый мелі пратэрмінаваныя запазычанасці па зарплаце. Сваіх грошай чакаюць 49 300 работнікаў. Пратэрмінаваная запазычанасць перавышае 170 мільярдаў рублёў.**

ШУШКЕВИЧ СТАНИСЛАВ СТАНИСЛАВОВИЧ
(фамилия, собственное имя, отчество (если таковое имеется))
проживающий(ая) по адресу:
220035, г. МИНСК, пр. Машерова, дом 78, кв. 14
получает пенсию с "01.12.2013 года" по "31.12.2014 года"
в размере 41600 ( Сорок одна тысяча шестьсот белорусских рублей ).
(прописью и цифрами)
В том числе:

| Год | 2013 | 2014 | 2015 | |
|---|---|---|---|---|
| январь | | 3200 | | |
| февраль | | 3200 | | |
| март | | 3200 | | |
| апрель | | 3200 | | |
| май | | 3200 | | |
| июнь | | 3200 | | |
| июль | | 3200 | | |
| август | | 3200 | | |
| сентябрь | | 3200 | | |
| октябрь | | 3200 | | |
| ноябрь | | 3200 | | |
| декабрь | 3200 | 3200 | | |
| Итого | 3200 | 38400 | | |
| | | | | |

Справка выдана по состоянию на "21.01.2015 "
Срок действия справки - бессрочно.

НАЧАЛЬНИК УПРАВЛЕНИЯ О.К. БЕЛАБРОВИК

# Пенсія Шушкевіча: нават булку хлеба не купіш

У студзені былы старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч узяў чарговую даведку ва упраўленні сацыяльнай абароны Цэнтральнага раёна Мінска. Агулам за год экскіраўнік Беларусі атрымаў 38 тысяч 400 рублёў. Гэта значыць, кожны месяц ён атрымліваў па 3200 рублёў.

Пажыццёвая пенсія ў памеры 3 мільёны 196 тысяч была прызначаная Шушкевічу яшчэ ў 1997 годзе. Пасля дэнамінацыі 1999-га яна стала складаць 3200 рублёў. Амаль дваццаць гадоў таму гэта былі неблагія грошы (300 даляраў). А сёння на іх не купіш нават булку хлеба. Па курсе Нацбанка – гэта ўсяго 0,2 даляра.

У 2010-м Шушкевіч звяртаўся да тагачаснага прэм'ер-міністра Сяргея Сідорскага, кіраўніка Адміністрацыі Уладзіміра Макея, старшыні Вышэйшага гаспадарчага суда Беларусі Віктара Камянкова з патрабаванне аднавіць справядлівасць і налічваць яму годную пенсію. Але нічыёй дапамогі так і не дачакаўся.

Сам Шушкевіч называе гэта «здзекам». І ў свае 80 год зарабляе грошы чытаннем лекцый у замежных універсітэтах.

**ЗП**

# «Ничто на земле не проходит бесследно»: ЕС унёс у чорны спіс Іосіфа Кабзона


lenta.ru

Еўрасаюз пашырыў чорны спіс расіянаў, у дачыненні да якіх уводзяцца санкцыі (забарона на ўезд і замарозка рахункаў), гаворыцца ў афіцыйным часопісе ЕС.

Ад Расіі ў спіс трапілі пяць чалавек. Гэта намеснікі міністра абароны Расіі Анатоль Антонаў і Аркадзь Бахін, намеснік начальніка генштаба УС РФ Андрэй Картаполаў, спявак Іосіф Кабзон і дэпутат Дзярждумы ад КПРФ Валерый Рашкін.

У пералік таксама ўключаны 14 жыхароў усходу Украіны, сярод якіх, напрыклад, намеснік камандзіра апалчэння «ДНР» Эдуард Басурын, а таксама дзевяць арганізацый — атрадаў «апалчэнцаў». У «чорны спіс» таксама ўнесены баявік Матарола (Арсеній Паўлаў).

## Спікер Дзяржлумы Расіі прыгразіў Еўропе вайной

Спікер дзяржаўнай Думы Расіі Сяргей Нарышкін накіраваў Еўрапейскаму парламенту і Радзе Еўропы дзіўны ліст, у якім ён называе вайну ва Украіне «барацьбой супраць нацызму» і абяцае «мабілізаваць усе сілы Расіі для абароны стабільнасці ва ўсёй Еўропе».

Пра гэта гаворыцца ў артыкуле, апублікаваным на сайце Newsweek. У Швецыі гэтыя пагрозы Масквы выклікалі абурэнне.

У лісце Нарышкін «папярэджвае», што існуе пагроза «новага падзелу Еўропы», якая паступае ад санкцый Захаду супраць Расіі, вайны ва Украіне і тэрарыстычных нападаў у Парыжы, якія адбыліся ў студзені. Паводле інфармацыі выдання, расійскі спікер лічыць, што мірнае жыццё 800 мільёнаў еўрапейцаў пад пагрозай.

Нарышкін заклікае еўрапейскіх парламентарыяў спыніць крызіс і абвастрэнне ў духу халоднай вайны.

«Мы не павінны дазволіць, каб нашчадкі нацызму, гэтай злачыннай ідэалогіі, выклікалі новы падзел у еўрапейскай сям'і нацый. Такі падзел ужо аднойчы прывёў да смерці і няшчасцяў, пакут і зламаных лёсаў, голаду і спустошэння ў нашай гісторыі», — цытуе выданне ліст Нарышкіна.

Расійскі палітык заклікае еўрапейцаў «усвядоміць, перад якой небяспекай аказалася Еўропа, і прыкласці намаганні, каб захаваць мір на кантыненце». Ліст адрасаваны АБСЕ, Еўрапейскаму парламенту, нацыянальным парламентам краін Еўропы і Парламенцкай асамблеі Рады Еўропы.

Яго тэкст з'явіўся ў шведскай прэсе і выклікаў абурэнне ў палітыкаў у Стакгольме. Некаторыя з іх нават лічаць, што Нарышкін, выкарыстоўваючы дыпламатычную мову, пагражае Еўропе вайной, калі Расіі далей будуць перашкаджаць весці вайну ва Украіне. У гэты ж час выданне піша, што ў Еўрапарламенце пракаментавалі, што нічога не ведаюць пра ліст ад Нарышкіна з пагрозамі. Раней іншы расійскі парламентарый Аляксей Пушкоў прыгразіў Еўропе вайной, калі ЗША ўзброяць Украіну.

zn.ua

## Гандляр смерцю па прозвішчы Зайцаў

Адзін з распаўсюднікаў спайсаў абвешчаны ў міжнародны вышук.



Следчы камітэт Беларусі высветліў асоб, якія маюць дачыненне да шэрагу смерцяў падлеткаў ад асабліва небяспечных псіхатропаў у мінулым годзе. Выяўлена арганізаваная злачынная група, якая распаўсюджвала на тэрыторыі краіны «маркі». Следства атрымала доказы, якія ўказваюць на дачыненне злачынцаў да гібелі двух хлопцаў і дзяўчыны ў пачатку 2014 года.

Адной з ключавых фігур і ідэйным натхняльнікам злачыннай групы з'яўляецца Юрый Зайцаў 1991 года нараджэння, які цяпер аб'яўлены ў міжнародны вышук.

Пасля выяўлення падпольных лабараторый следству стала зразумела, чаму некаторыя спажыўцы спайсаў гінуць або трапляюць у бальніцы з найцяжэйшымі атручэннямі. Арганізатары злачыннага бізнесу, пастаўляючы ніжэйшым членам груп прэкурсоры, таксама інструктуюць іх аднолькава спосабу вырабу канчатковага прадукту, які прапаноўваюць замежныя распрацоўшчыкі гэтых забароненых рэчываў. Аднак калі за справу бяруцца мясцовыя наркаманы-хімікі, то пракантраляваць канцэнтрацыю рэчыва і выкананне ўсёй тэхналогіі немагчыма.

Следчыя і аператыўнікі выяўляюць матэрыяльныя каштоўнасці абвінавачваных, атрыманыя падчас злачыннай дзейнасці. Спынена спроба Юрыя Зайцава і іншых асоб абнаявіць праз банкаматы ў Мінску 1,5 мільярда рублёў. Накладзены арышт больш чым на 680 мільёнаў рублёў, якія знаходзіліся на рахунках, адкрытых на падстаўных асоб.

КМ

## Пад Стоўбцамі зрэзалі гістарычную брукаванку дзеля пабудовы новай трасы

Днямі знакамітую брукаванку пад Стоўбцамі, яе лепшую, «фасадную», частку бязлітасна зрэзалі пад новую аб'язную дарогу вакол райцэнтра. Гэты выключна рэдкасны па сваёй захаванасці рарытэт размяшчаўся адразу ж за Нёманам, едучы на Нясвіж праз Новы Свержань. Дагэтуль ён нікому не замінаў.

І вось... Застанецца хіба ацалелым невялікі аддалены брукаваны кавалак гістарычнай дарогі, якая калісьці вяла на Мір. Дый якасць яе тут зусім не тая.



Два месяцы таму, 24 снежня, я быў на прыёме ў новага раённага начальніка Юрыя Горлава. У мяне было шмат пытанняў, у тым ліку і захаванне брукаванкі. Пры вялікім актыве я сказаў, што брукаванку нельга чапаць. «Не зачапілі да вас, не чапайце і вы. Гэта помнік пад адкрытым небам. Мясцовы скансэн. Калі збіраемся рухацца ў бок турызму, не рушце гэты брук, пакіньце яго цалкам, ён будзе вельмі запатрабаваны. А людзі, мясцовыя жыхары, скажуць вам дзякуй, не раз успомняць добрым словам».

Я бачыў, як мае словы джаляць спадара Горлава. Бо гэта былі палкі ў кола, якое ўжо набірала абароты. Пытанне засталося адкрытым. Я спадзяваўся, што ёсць час да вясны. Заварушылася і грамадскасць — два тыдні таму жыхары Стоўбцаў распачалі збор подпісаў на абарону роднай брукаванкі. Але і гэта не спрацавала, магчыма, нават паскорыла, каб пратэсты не паўплывалі на разбуральны, ганебны праект уладаў.

Не верыцца. Не верыцца, што гэтак бяздарна, самавольна, экспансійна, антынародна затупляюцца наша спадчына, гісторыя, сляды мінуўшчыны.

Напрыканцы дазволю самацытату. «Мроя-праект на трывалым грунце ацалелай каштоўнасці», газета «Белавежская пушча», 1998 год: «Несумненна, гэтую дарогу можна без натугі назваць рарытэтам — рэдкай каштоўнасцю. Як называем рарытэтамі старадрукі, слуцкія паясы, рыцарскія даспехі. Пераболышанне тут калі й ёсць, дык гэта як на чый густ. Дарэчы, здаецца, у Летуве, а можа яшчэ дзе ў свеце ацалелыя брукаванкі знаходзяцца пад аховай дзяржавы. Як помнікі матэрыяльнай культуры, як помнікі «дзён, што ў нябыт уцяклі...»

Валер Дранчук, фота аўтара

## Матарола: «Беларусы нармальныя хлопцы, мне толькі не падабаецца, што іх Бацька на 15 гадоў пасадзіць хоча»

«Наша Ніва» дазванілася да баевіка Матаролы. Гэта адзін з найбольш вядомых дзеячаў так званай «Данецкай народнай рэспублікі».

Матарола — 30-гадовы ўраджэнец Рэспублікі Комі Расіі Арсеній Паўлаў. Служыў у марской пяхоце, браў удзел у вайне ў Чачні. За абарону Славянска ўзнагароджаны «Георгіеўскім крыжам ДНР».

Ад самага пачатку Матарола пераконваў, што гаварыць беларускім СМІ яму няма чаго. Ад гутаркі адмаўляўся, але пару пытанняў задаць усё ж удалося.

«У мяне ў Беларусі сваякі, цётка жыве недалёка ад Белавежскай пушчы, — сказаў «НН» Матарола. — Я там у яе бываў».

У сваім інтэрв'ю газеце «Завтра» ад 19 чэрвеня 2014 года Арсеній Паўлаў паведаміў пра наяўнасць у Расіі жонкі і пяцігадовага сына. У той жа час СМІ загаварылі пра Матаролу, пасля таго як ён 11 ліпеня ажаніўся з жыхаркай Данбаса, 21-гадовай Аленай Каленкінай. На вяселлі ў якасці запрошаных гасцей прысутнічалі першыя асобы «ДНР», у тым ліку «міністр абароны» Ігар Стралкоў і палітычны лідар «Народнага апалчэння Данбаса» Павел Губараў. Вяселле стала тэмай рэпартажаў усіх асноўных расійскіх СМІ.

Мы папыталіся, колькі беларусаў служыць у атрадах «ДНР». «Хапае, усе нармальныя хлопцы. Мне толькі не падабаецца, што ваш Бацька хоча іх пасадзіць у турму на 15 гадоў».

Ці верыць Матарола ў «мінскія пагадненні»? «Я не ведаю нават, што там заключалі, мяне ж там не было». Якая абстаноўка цяпер у Данецкай вобласці? «Нестабільная», — адказаў Матарола. Далей працягваць размову ён не захацеў.

Зміцер Панкавец, фота з Вікіпедыі



# Для ўсіх катэгорый насельніцтва: на Aliexpress прадаецца ўсё, што хочаш

Дзіцяці сціплага кітайскага настаўніка Джэка Ма — гандлёвая пляцоўка Aliexpress — стала **надзвычай папулярнай** у беларусаў.

Паводле аналітычных дадзеных аналізатара Alexa, Aliexpress займае 12-е месца па наведвальнасці з Беларусі. Гэта не дзіва: на сайце можна набыць тавары, цэны на якія ў Беларусі значна вышэйшыя пры бяднейшым асартыменце. Пакупкі пры гэтым яшчэ і бясплатна даставяць амаль да парога.

Але калі мабільныя тэлефоны і іншыя рэчы першай неабходнасці набытыя, надыходзіць час тавараў для душы. А Aliexpress дапаможа любому і ў гэтай справе. Нават таму, хто не ўяўляе жыцця без бел-чырвона-белага сцяга і герба «Пагоня» хоць на чым. Так, гэтыя сімвалы не выкарыстоўваюцца афіцыйна, але попыт на іх ёсць. А кітайцы — майстры задавальняць попыт.

Усяго за 15 долараў можна набыць сабе вялікі (90 на 150 сантыметраў) бел-чырвона-белы сцяг. Можна замовіць такі ж, толькі з «Пагоняй» пасярэдзіне. Яшчэ адзін варыянт — сцяг з крыжам святога Юр'я і «Пагоняй».

Існуюць і больш кампактныя варыянты нацыянальнай сімволікі. Напрыклад, металічны значок на штрыфель пінжака ў выглядзе контура Беларусі з нанесеным на яго бел-чырвона-белым сцягам. Такі варыянт падыдзе для аматараў афіцыйнага стылю адзення і будзе добра пасаваць фармату сур'ёзных сустрэч. Аднак адзін значок не купіць, можна замовіць толькі партыю з 200 штук за 316 долараў. Больш бюджэтны варыянт — круглыя значкі з контурам Беларусі і БЧБ сцягам, 20 штук за 18 долараў. Самая танная рэч з бел-чырвона-белым сцягам — тканевая нашыўка. 10 штук абыдуцца ў 7,5 долара.

А вось аматарам цяперашняй дзяржаўнай сімволікі сапраўды ёсць дзе разгарнуцца. Можна замовіць сабе простыя сцяг, прычым чырвона-зялёнае палотнішча 90 на 150 сантыметраў абыдзецца амаль у два разы танней за бел-чырвона-белы сцяг такога самага памеру. Камплект са 100 сцяжкоў 14 на 21 сантыметр абыдзецца прыкладна ў 20 долараў — хопіць на ўсіх сяброў і знаёмых. Для самых амбіцыйных прадаецца нават прэзідэнцкі штандар з залатым гербам.







Для тых, хто сапраўды жадае вылучыцца, прадаецца, напрыклад, медаль «Герой Беларусі». Залатая зорка на чырвона-зялёнай стужцы каштуе 68 долараў.

Сапраўдныя арыстакраты ацэняць элегантны кішэнны механічны гадзіннік з выявай герба Беларусі на накрыўцы. Прадавец просіць за яго ўсяго 20 долараў, а задаволеныя пакупнікі пакідаюць 5-бальныя водгукі.

Уладальнікі iPhone могуць замовіць сабе чахлы з беларускім дзяржаўным сцягам — яны выпускаюцца ў некалькіх варыяцыях і каштуюць літаральна нічога.

Незвычайна выглядаюць і срэбныя пацеркі 925-й пробы з чырвона-зялёным сцягам — 14 долараў за штуку.

Для завяршэння вобразу падыдуць перфарацыйныя акуляры з дзяржаўным сцягам — 15 долараў за партыю з 5 штук.

Не абмінулі ўвагай кітайскія вытворцы і тых, хто сумуе па савецкіх часах. На сайце Aliexpress можна набыць кішэнны гадзіннік ці футболку з выявай герба БССР. А вось пра Аляксандра Лукашэнку забыліся — на ўсім Aliexpress няма ніводнай рэчы з яго выявай. Відаць, усе вытворчыя магутнасці заняты выпускам тавараў з Пуціным, якія прадаецца безліч.

**Яўген Крэйда**

## Памёр стваральнік кіндар-сюрпрыза

Мікеле Ферэра было **89 гадоў**.

Італьянскі бізнэсмен памёр пасля працяглай хваробы ў Монтэ-Карла. Пахаванне адбылося ў горадзе Альба на поўначы Італіі, дзе нарадзіўся Ферэра.

Ферэра пераняў кіраванне невялікім сямейным прадпрыемствам у 1949 годзе. Пад яго кіраўніцтвам кампанія Ferrero стала сусветна вядомым вытворцам прысмакаў. Ферэра першым з італьянскіх кандытараў пачаў экспансію свайго бізнэсу за мяжу, і ў 1967 годзе заходнегерманскае аддзяленне кампаніі пачало вытворчасць шакаладу пад брэндам Kinder, які цяпер аб'ядноўвае цэлую лінейку сусветна вядомай прадукцыі.

Таксама шырока вядомыя цяпер цукеркі Ferrero Rocher, Raffaello і Mon Cheri, вафлі Hanuta і дражэ Tic Tac.

**Dw.de**

**Фотафакт**



**Златан Ібрагімавіч выбіў на сваім целе імёны людзей, што пакутуюць ад голаду**

14 лютага форвард парыжскага ПСЖ падчас матча з «Канам» зняў з сябе футболку і атрымаў за гэта жоўтую картку.

«Я нанёс на сваю скуру пятнаццаць імёнаў, бо там не хапіла б месца для 805 мільёнаў. Тое, што я зняў футболку, не было запланавана, выйшла спантанна. Гледзячы на пакуты людзей у свеце, я гатовы атрымаць хоць чырвоную картку», — сказаў спартовец.

Форвард зрабіў сабе татуіроўкі з імёнамі пятнаццаці чалавек, якія сімвалізуюць яго ўдзел у Сусветнай харчовай праграме, накіраванай на барацьбу з голадам.

«Цяпер, калі вы будзеце чуць маё імя, вы будзеце думаць пра іх. Калі будзеце бачыць мяне, будзеце думаць пра іх», — кажа швед у сваім звароце.

## Амерыканскія навукоўцы распрацавалі батарэйкі для тэлефонаў на цукры

Яны **ў дзесяць разоў** магутнейшыя за сённяшнія.

Каманда навукоўцаў з Політэхнічнага ўніверсітэта Віргініі (Virginia Tech) распрацавала элемент сілкавання на аснове цукрозы, які валодае рэкорднай сярод аналагічных прылад энергетычнай шчыльнасцю. Вынікі працы былі апублікаваныя ў часопісе Nature Communications.

Па словах аднаго з аўтараў праекта, прафесара Персільваля Чжана (Percival Zhang), створаная імі батарэйка валодае на парадак (каля 10 разоў) большай энергетычнай шчыльнасцю ў параўнанні з існуючымі распрацоўкамі — мяркуецца, што яна зможа працаваць без перазарадкі значна даўжэй, чым сучасныя літый-іонныя акумулятары.

«Цукроза — гэта выдатная крыніца энергіі, якая змяшчаецца ў прыродзе, — дадаў Чжан. — Таму было цалкам лагічна скарыстацца гэтай крыніцай і стварыць экалагічна чысты элемент сілкавання».

Прыкладна праз 2—3 гады такія элементы сілкавання дазволяць забяспечваць неабходным электрычным токам мабільныя тэлефоны, планшэты і іншыя гаджэты, мяркуюць навукоўцы.

**Лявон Максюта**



## Расійскі ваенторг прадае медалі «За ўзяцце Кіева» і бікіні «ДНР»

Расійскі ваенторг «Военпро», акрамя звычайнага рыштунку, на хвалі расійскага патрыятызму распачаў продаж і даволі дзіўных тавараў.

У краме, акрамя копій існуючага медаля «За вяртанне Крыма», можна набыць і медалі «За ўзяцце Кіева», «За ўзяцце Львова», «За вызваленне Адэсы», «Удзельніку гуманітарнага канвою». Медаль каштуе ўсяго 499 расійскіх рублёў (каля 8 долараў). Да медаля можна набыць узнагароднае пасведчанне, якое запаўняецца самастойна.

«Военпро» таксама прапануе і калекцыю-2015 «Свет Наваросіі», якая «прысвячаецца ўсім тэрарыстам паўднёвага ўсходу». У калекцыю ўваходзяць бікіні і купальнікі «ДНР» і «Наваросія», розныя аксесуары з сімволікай «ДНР» і «Наваросіі».

**ЯК**

Фотафакт



Сталі вядомыя пераможцы конкурсу World Press Photo за 2014 год — найлепшыя фоты года. Сярод лаўрэатаў — вось гэты здымак амерыканца Піта Мюлера. Эпідэмія Эболы ўспыхнула ў Заходняй Афрыцы. Спыніць яе ўдалося, дзякуючы супольнай аперацыі амерыканскай арміі, кубінскіх дактароў і каталіцкіх ордэнаў міласэрнасці, што апекаваліся хворымі. У студзені Пентагон абвесціў пра завяршэнне спецаперацыі. Эпідэмія ліквідаваная, амерыканскія вайскоўцы згортваюць палявыя шпіталі.

## Самыя папулярныя дзіцячыя імёны — Марыя і Максім

Летась у Мінску нарадзілася больш за 17600 дзяцей. Якія імёны бацькі найчасцей давалі немаўлятам?

| | Дзяўчынкі | | Хлопчыкі | |
|---|---|---|---|---|
| 1. | Марыя | 649 | Максім | 642 |
| 2. | Ганна | 591 | Арцём | 635 |
| 3. | Соф'я | 586 | Іван | 558 |
| 4. | Дар'я | 535 | Міхаіл | 509 |
| 5. | Настасся | 517 | Аляксандр | 484 |
| 6. | Ксенія | 473 | Аляксей | 459 |
| 7. | Лізавета | 421 | Мікіта | 453 |
| 8. | Вікторыя | 412 | Раман | 453 |
| 9. | Валерыя | 408 | Данііл | 448 |
| 10. | Паліна | 401 | Кірыл | 419 |

Інф. Tut.by

## Канадзец стварыў крэм для выдалення татуіровак

Вынаходка 27-гадовага Алека Фалкенгема з універсітэту Дэлхаўс папросту распускае чарнілы ў арганізме чалавека з дапамогай клетак арганізму.

Даследчык праводзіць эксперыменты на вушах свіней. Аб часе з'яўлення крэму ў продажы ён казаць пакуль не можа.

**АА**

# Джалі і Піт усынавяць сірыйскага бежанца



Зорная пара Анджаліна Джалі і Брэд Піт рыхтуюцца ўсынавіць чацвёртае дзіця. Ім стане двухгадовы бежанец з Сірыі па імені Муса, з якім актрыса пазнаёмілася, калі ў якасці пасла добрай волі ААН наведвала лагер бежанцаў у Турцыі.

«Маленькі Муса пабег да Анджаліны адразу ж, як яе ўбачыў. Гэта было неверагодна кранальна. Актрыса пацалавала дзіця, і з тых часоў яны не расставаліся», — распавёў відавочца таго, што адбылося.

Цяпер зорная пара займаецца афармленнем усіх неабходных для ўсынаўлення малога папер.

У 39-гадовай Джалі і 51-гадовага Піта шасцёра дзяцей: трое сваіх і трое прыёмных: в'етнамец Пакс, камбаджыец Мэдакс і эфіопка Захара. Муса стане ў вялікай сям'і сёмым дзіцём. Акцёры разам з 2005 года, а пажаніліся ў жніўні 2014-га.

Фотафакт




КІРЫЛА ХАЛЬКО

Перад Камароўскім рынкам у Мінску кампанія Nescafe ўсталявала велізарны кубак з сюрпрызам. На кубку ёсць цёплыя месцы, да якіх можна прыкласці змерзлыя рукі і пагрэцца. Дзеці ад такога ў захапленні.

Вясёлае пяро

Мардэхай В.

## Саша і вышыванка

*«Арт-студыя Pras паведаміла аб планах выпуску «вышываных» шын для ровараў. На гуме па запатэнтаванай тэхналогіі будзе выплаўлены арнамент — «Знак сонца з крыжыкам». Ахвочых стаць інвестарамі праекту заклікаюць пісаць на daprasu@gmail.com».*

По шашы ў вышыванцы
Едзе Саша наш на танцы
Вышыровар, вышышыны
Усе сустрэчныя машыны
Яго весела вітаюць
Саша у адказ ківае.
Ён у трэндзе! Ёсць увага!
Лайкі, статусы, павага!
Саша мроіць стаў заўзята
Як самлеюць усе дзяўчаты,
Ад таго, што будзе ўночы,
Ён заплюшчыў нават вочы.
Раптам, вось неспадзяванка,
Трапіў колам ровар у ямку.
Саша дзёрнуў галавою
І ў цэп трапіў барадою,
Цэп у бараду ўчапіўся,
І наш Саша паваліўся!
Хай ты модны і прышпільны —
За рулём заўжды будзь пільным!

## Памёр акцёр Ражэ Анэн — «камісар Наваро»

Французскі акцёр Ражэ Анэн, які сыграў галоўную ролю ў тэлесерыяле «Камісар Наваро», памёр у Парыжы ва ўзросце 89 гадоў. Ён сканаў у шпіталі Жоржа Пампіду ў Парыжы ад вострай дыхальнай недастатковасці.

Ражэ Анэн нарадзіўся ў 1925 годзе ў Алжыры,. Яго жонкай была Крысцін Гуз-Рэналь — родная сястра жонкі экс-прэзідэнта Францыі Франсуа Мітэрана.

Колькасць работ Анэна ў кіно вымяраецца дзясяткамі, аднак у Беларусі найбольшую папулярнасць ён атрымаў, сыграўшы галоўную ролю ў паліцэйскім серыяле «Камісар Наваро», які выйшаў на экраны ў канцы XX ст.



## 109-гадовы аўстраліец звязаў швэдры для пінгвінаў

Найстарэйшы жыхар Аўстраліі Альфрэд Дэйт знайшоў у доме састарэлых нечаканае карыснае ўжыванне сваім навыкам — ён умее вязаць.

Пінгвінам вострава Філіп швэдры трэба не дзеля моды. Ад разліваў нафты іх натуральнае «футра» псуецца і перастае грэць — патрэбна штучнае. Добраахвотнікі, такія, як Дэйт, звязалі швэдры для калоніі з 32 тысяч пінгвінаў.

А ў Дэйта новая задача — ён вяжа шапачкі для неданошаных дзяцей, а таксама шалікі сябрам. За 109 год Альфрэд так і не навучыўся адмаўляць тым, каму трэба дапамога.

**Аляксандр Арсёнаў**



# Дазвольце запярэчыць,
## або Ганьба ў год 70-годдзя Перамогі

У «НН» (№2 ад 14 студзеня) надрукаваны адказ Г.Уласаву з нагоды збітага «Боінга». Не вешайце лапшу на вушы чытачам! Вы сцвярджаеце, што «ўсе факты паказваюць, што збілі самалёт не ракетай з іншага самалёта, а з зенітнага комплексу «Бук», пастаўленага баевікам Расіяй». Назвалі б не ўсе, а хаця б адзін факт на карысць Вашай версіі. Які эксперт гэта высветліў, на падставе чаго? Нумар в/ч, прозвішча камандзіра разліку, батарэі?

«Баевікі, шантрапа», самастойна з ЗРК «Бук» не змаглі б справіцца. Патрэбны спецыялісты. Я ўдзельнік баявых стрэльбаў ЗРК С-200 на Балхашы і іншых палігонах. Ведаю, што магутнасці «Бук» і С-200 прыкладна блізкія. Для запуску і знішчэння мэты патрэбны хаця б невялікі баявы разлік спецыялістаў.

Вы раіце «менш чытаць расійскай прапаганды і крытычна ацэньваць факты», а крыху вышэй гаворыце, што да такіх высноў прыйшлі «шляхам супастаўлення фактаў». Але, каб супаставіць, трэба даведацца пра іх, у тым ліку і з расійскіх СМІ. Штосьці тут у Вас пастаўлена з ног на галаву. Па-мойму, «баевікамі-шантрапой», тэрарыстамі, хутчэй за ўсё трэба называць тых, хто артабстрэламі руйнуе дамы, школы, бальніцы, забівае дзяцей, жанчын, старых... Гэта ганьба ў год 70-годдзя Перамогі.

З найлепшымі пажаданнямі праўды і свабоды,

**Анатоль Дарашэнка**

### Ад рэдактара

Хто ж Вам, такому наіўнаму, скажа «нумар в/ч, прозвішча камандзіра разліку, батарэі», якія збілі мірны «Боінг»? За такое злачынства вінаватым жа рана ці позна адправіцца пад міжнародны трыбунал прыйшлося б. Прычым не «стрэлачнікам», а тым асобам, якія санкцыянавалі адпраўку «Букаў» у Данбас. Таму будуць маўчаць і што хочаш выдумляць у падкантрольным сабе СМІ. І «сведкаў» у іх — столькі, колькі акцёраў у пагарэлым тэатры.

Што да абстрэлаў — правільна асуджаеце. Толькі адкажыце на пытанне: на тэрыторыі якой суверэннай, незалежнай дзяржавы адбываюцца гэтыя страшныя справы, ідуць баі? Хто іх распачаў? Хто праз расійскую мяжу — іншай у Данбаса няма — пастаўляе боепрыпасы, без якіх даўно за тыдзень усё б сціхла?

Папярэдні раз «аб'яднаць суайчыннікаў», «аднавіць гістарычную справядлівасць» спрабаваў у Еўропе Гітлер. Колькі гора тады гэта прынесла! Што вынеслі нашы людзі ў спаленых вёсках! І хто ведае, можа быць, і тады Гітлера ўдалося б спыніць раней, калі б Чэхаславаччына ў 1938 аказала супраціў Германіі?

Патрабаванні Гітлера і траскатня германскіх СМІ пра Судэты — адзін у адзін як цяпер у Расіі пра Данбас.

Можа быць, каб чэхі ў 1938-м пачалі ваяваць з пятай калонай Гітлера ў Судэтах, не дайшло б да Хатыні?

Сапраўды, ганьба, што ў год 70-годдзя разгрому нацысцкай поскудзі мы зноў назіраем у Еўропе, нібы дэжавю, новую спробу перадзелу межаў?

Калі я ад Вашай дачы забяру сотку — Вам і тое будзе крыўдна. А ад Украіны не сотку забралі, а 7% тэрыторыі ўжо, прычым якой — Крым, данецкі вугальны басейн, нафтагазавыя радовішчы шэльфа...

Перадзел межаў лёгка пачаць, ды цяжка скончыць. Не дай Бог Беларусі быць уцягнутай у гэта. А вам, адчуваю, вельмі гэтага хацелася б.



**Так выглядае цяпер скрыжаванне на трасе Бахмутка недалёка ад Дэбальцава. Нібы воспінамі, зямля спярэшчаная варонкамі пасля абстрэлаў расійскімі сіламі стратэгічна важнага скрыжавання ў Луганскай вобласці Украіны. Фота было зроблена з беспілотніка.**
**Гэтае скрыжаванне ахоўваў 31-ы блокпост украінскай арміі. Расійскія сілы літаральна спрасавалі тэрыторыю снарадамі, каб захапіць яе. Бо траса Т-1303, ці як яе называюць на Луганшчыне — «Бахмутка», адкрывае шлях з Луганска на агламерацыю Лісічанск, Севераданецк, Рубежнае, і далей на Крамянную, дзе вядзецца здабыча прыроднага газу.**

**Гісторыя вучыць, гісторыя мучыць...**

# Сяргей Навумчык: Пра што забыўся Трусаў

Выступаючы перад наведнікамі курсаў «Мова нанова», шаноўны старшыня Таварыства беларускай мовы Алег Трусаў адказаў, сярод іншых, на пытанне адносна дзейнасці апазіцыі БНФ.

З адказу Трусава складваецца ўражанне, што ўсё, зробленае на пачатку 90-х гадоў (у тым ліку і Незалежнасць, і наданне «Пагоні» і Бел-Чырвона-Беламу Сцягу статусу дзяржаўных сімвалаў), — вынік высілкаў зусім не БНФ і фронтаўскіх прадстаўнікоў у Вярхоўным Савеце, а дзейнасці Дэмклуба (дзе ў ліку 100 дэпутатаў быў і Лукашэнка), а таксама — камуністаў. («Не зусім гэта праўда, што толькі там апазіцыя БНФ... Там яшчэ было прыхільнікаў сотні дзве», «і больш за тое, яшчэ плюс — асноўная маса дэпутатаў былі людзі з вышэйшай адукацыяй, няважна, камуністы яны, нацыяналісты...»

Насамрэч, Дэмакратычны клуб, які быў створаны вясной 1990-га, у час першай сесіі ВС збіраўся добра калі два разы за ўвесь шасцігадовы тэрмін кадэнцыі Вярхоўнага Савета.




**Перыяд пачаткаў незалежнасці Рэспублікі Беларусь у 90-х застаецца тэмай гарачых спрэчак. На фота: рэкламны значак прэм'ер-міністра Вячаслава Кебіча часоў прэзідэнцкай кампаніі 1994 года.**

Ён і не мог дзейнічаць эфектыўна — бо, нароўні з Пазняком ці тым жа Трусавым, туды ўваходзілі першы сакратар ЦК ЛКСМ Кудлаш, дарадца Кебіча Мікалай Скарынін, начальнік упраўлення аховы Міхаіл Цесавец (адзін з тых, які кіраваў аперацыяй збіцця дэпутатаў БНФ у ноч з 11 на 12 красавіка 1995 г.), Віктар Шэйман (тлумачэнні, думаю, залішнія) — ды іншая падобная публіка. Так, нам удалося пераканаць некаторых з гэтых людзей прагаласаваць і за Незалежнасць, і за Герб і Сцяг — але ў тым самым 91-м «перамоўны» патэнцыял з камуністамі быў вычарпаны. З 1992-га года камуністы пайшлі на рэванш, які меў выразна антыбеларускі, праімперскі характар.

Я не ведаю, адкуль Трусаў узяў «дзве сотні прыхільнікаў». Затое я добра памятаю (і гэта зафіксавана дакументальна), што кожны радок заканадаўчых дакументаў аб Незалежнасці нам, дэпутатам БНФ, даводзілася вырываць у напружанай барацьбе з гэтымі «дзвюма сотнямі». Барацьбе, якая цягам шасці гадоў забірала ўсе сілы (магчыма, таму і сышлі з жыцця ў 40—50 гадоў некаторыя мае калегі па апазіцыі).

І менавіта гэтыя «дзве сотні прыхільнікаў» у кастрычніку 1992 года заблакавалі рэферэндум аб датэрміновых выбарах ВС па новым дэмакратычным законе, менавіта яны прагаласавалі за далучэнне Беларусі да Сістэмы калектыўнай бяспекі (што азначала ўцягванне ў арбіту вайсковых інтарэсаў Масквы; і Шушкевіч падпісаў), і менавіта яны ў сакавіку 94-га, з парушэннем Рэгламенту ВС, правялі ў Канстытуцыю інстытут прэзідэнта. Менавіта яны падтрымалі вясной 95-га ініцыятыву Лукашэнкі аб правядзенні так званага «рэферэндуму», а калі на раніцу пасля галадоўкі ў Авальнай зале Алесь Шут паказаў крывападцёкі ад дубінак спецназаўцаў, камуністы, гэтыя «людзі з вышэйшай адукацыяй», крычалі: «Мало Вам дали!»

У апошнія два дзесяцігоддзі лукашэнкаўская прапаганда рабіла ўсё магчымае, каб спачатку ўтаптаць у бруд дэпутатаў апазіцыі БНФ — а затым, пры спрыянні афіцыйнай гістарыяграфіі, сцерці ў грамадскай свядомасці памяць і пра гэтых людзей, і ўвогуле пра той час.

Сумна, калі гэтаму спрыяюць (свядома і несвядома) тыя, хто сам браў удзел у тых гістарычных падзеях.

**Сяргей Навумчык, дэпутат апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце 12-га склікання, Прага**

### Ад рэдактара

Паведамляйце ў «Нашу Ніву» пра ўсе цікавыя ці, наадварот, абуральныя факты.

У большасці выпадкаў публікацыя ў незалежнай газеце аўтаматычна прыводзіць да выпраўлення сітуацыі. Але для гэтага ў Вашым паведамленні мусіць быць канкрэтыка, а Вашы нараканні павінны быць законнымі і справядлівымі.

Пішыце, як Вам зручна: на электронную пошту, у скайп, пісьмом ці праз форму на сайце NN.BY.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск.**
**e-mail: nn@nn.by.**
**Факс: (017) 284-73-29 Skype: nashaniva**

### Цёплыя словы

Дарагая Рэдакцыя!

Дзякуй вам за выдатную газету! Кожную сераду чакаем з жонкай яе і прачытваем ад першай да апошняй старонкі, а пасля перадаём суседзям па пляцоўцы.

Дзякуем Ягору Марціновічу, што раскапаў праўду пра новых «баяр» і іх Дразды.

Дзякуем за добрую літаратуру. Заўжды з асалодай прачытваем поўныя добрага гумару п'есы Аляксандра Апона. Вельмі палюбілася нам каляднае апавяданне Таццяны Барысік, ведае яна жыццё!

Моцнае пяро і ў вашага новага аўтара Уладзіслава Швядовіча. Ягоныя рэпартажы з-пад Магілёва і Брэста ўзялі за душу.

Добрага вам здароўя і шмат падпісчыкаў!

**Іван і Ірына Івановы, Мінск**



**Фотажабы**



# Так любіў лес, што пабудаваў у ім катэдж

Экс-намесніка міністра лясной гаспадаркі Фёдара Лісіцу **судзяць за незаконнае будаўніцтва.**


БЕЛАПАН

Пачаўся суд над былым першым намеснікам міністра лясной гаспадаркі Фёдарам Лісіцам. Судзіць экс-чыноўніка пачалі на радзіме — у Салігорску.

Працэс меркавалася правесці ў Мінску. Але яго перанеслі ў раённы цэнтр, дзе па справе праходзяць 80 сведкаў. Каб людзей не ганяць у сталіцу, дапытваць іх будуць там.

Крымінальную справу супраць Лісіцы завялі 9 красавіка 2014. За пару дзён да гэтага знялі з пасады. Падставай сталі вынікі праверкі, якую праводзілі КДБ, МУС і КДК. Чыноўніка абвінавацілі ў злоўжыванні ўладай і службовымі паўнамоцтвамі. Паводле следства, Лісіца незаконна набыў зямельны ўчастак, пабудаваў і прыватызаваў жылы дом, нямэтава выкарыстоўваў бюджэтныя сродкі.


EJ.BY

Матэрыялы абвінавачання цытуе «Ежедневник»: на Лісіцу капнулі яшчэ ад 1990-х гадоў. Тады 30-гадовы Фёдар Лісіца працаваў ляснічым у Старобінскім лясгасе. Там і пачаліся незаконныя маніпуляцыі з зямлёй. Каля вёскі Яскавічы Салігорскага раёна ён пабудаваў катэдж на 294 м². Але аказалася, што зямля тая знаходзіцца ў водаахоўнай зоне і адносіцца да лясного фонду. І будавацца на ёй было нельга. Ужо ў 2005, калі Лісіца быў дырэктарам Старобінскага лясгаса, свой участак ён незаконна вывеў з лясного фонду. А дом зарэгістраваў на жонку. У выніку быў знішчаны надглебавы покрыў і адбылася дэградацыя зямель. Шкода ацэнена ў 1,34 мільярда рублёў.

У 2005—2010, па версіі абвінавачання, Лісіца даў загад выдзеліць участак ужо ў вёсцы Тычыны пад будаўніцтва ведамаснага жытла. Аднак пасля будаўніцтва дома яго не ўвялі ў эксплуатацыю як службовае жытло, каб можна было прыватызаваць. Прычым дом на 252 м² пабудаваў лясгас, якім кіраваў Лісіца. Дырэктар спачатку засяліўся, а пасля стаў у чаргу як чалавек, які мае патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў. І прыватызаваў дом. Вось толькі цана дома была зменшана на 63 мільёны — агулам жа склала 309 мільёнаў рублёў. Ён мусіў выплаціць 10% ад агульнай сумы, а рэшта раскідвалася на 40 гадоў. Такая вось звышвыгадная растэрміноўка.

А затым Фёдар Лісіца перабраўся ў Мінск. У 2010 яго прызначылі першым намеснікам міністра лясной гаспадаркі. Пераезд у сталіцу раскрыў новыя кватэрныя перспектывы. Ён папрасіў у міністра службовае жытло, хоць перад гэтым адмовіўся ад будаўніцтва трохпакаёўкі. І яму выдзелілі двухузроўневую кватэру ў Ждановічах (111 м²). За кошт інавацыйнага фонду зрабілі рамонт, абсталявалі мэбляй. Агулам на гэта пайшло больш за 300 мільёнаў рублёў. І тады Фёдар Лісіца звярнуўся з просьбай дазволіць прыватызаваць жытло як асобе, якая мае патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў. На гэты раз схема не спрацавала.

А яшчэ былога намесніка міністра абвінавацілі ў тым, што ад мая да верасня 2012 ён пражываў у нумары «люкс» ведамаснай гасцініцы без аплаты. Тут «накапала» 5 мільёнаў.

У судзе ж Фёдар Лісіца, як піша «Ежедневник», усе абвінавачанні адкінуў і заявіў пра фальсіфікацыю справы. А для кожнага эпізода знайшоў тлумачэнне.

Экс-чыноўнік даводзіў, што ўчастак каля Яскавіч быў уведзены ў лясны фонд памылкова. А калі ён тое заўважыў, сам і выправіў памылку. А дом той будаваўся за грошы жончыных бацькоў. Вось на яе і зарэгістравалі катэдж. Пасля, праўда, развяліся, і ён пазбавіўся жытла.

Памылкай патлумачыў і заніжэнні ацэначны кошт дома ў Тычынах. Маўляў, ацэншчык няправільна ўказаў год яго здачы. І ў гэтым яго, Лісіцавай, віны, маўляў, няма.

А вось адмову будаваць трохпакаёўку ў Мінску спісаў на невысокі заробак у міністэрстве. Не назбіраў грошай, каб зрабіць першы ўнёсак. Таму і папрасіў службовую кватэру, якая, па яго словах, аказалася ў кепскім стане. Вось і давялося рабіць рамонт.

Нявыплату за нумар у гасцініцы патлумачыў тым, што яму так сказалі: не плаціць.

Суд над Фёдарам Лісіцам працягваецца. Пасля ўсіх допытаў у Салігорску працэс пераедзе ўсё-ткі ў Мінск, дзе таксама хапае сведкаў па гэтай справе.

**Кастусь Матушыч**

## Вышук



**Не вярнулася**
Алеся Панцялеева, 1990 г.н., у дзень свайго нараджэння, 15 ліпеня 2014, пайшла з дома і не вярнулася. У дзень знікнення знаходзілася ў пятым мікрараёне Гомеля. На плячы, бліжэй да левай лапаткі, мае радзімку. Хто ведае месцазнаходжанне дзяўчыны, звяртайцеся на: (0232) 70-44-25, (029) 687-98-70.



**Можа быць у Беларусі**
Грамадзянін Узбекістана, 31-гадовы Хуснудзін Усманаў, на радзіме падазраецца ў тэрарызме. У канцы 2014 яго затрымалі ў Мінску. Аднак у пачатку студзеня ён збег. Калі вы бачылі гэтага чалавека, звяртайцеся на 102.

## 22-гадовага беларуса прыраўнялі да баевікоў «Аль-Каіды»

Гілані Лазарэвіч трапіў у **спіс небяспечных тэрарыстаў.**

У пачатку лютага КДБ апублікаваў спіс асобаў, якія ўдзельнічаюць у тэрарыстычнай дзейнасці, маюць дачыненне да распаўсюду зброі масавага знішчэння альбо знаходзяцца пад кантролем такіх людзей. У спісе — больш за 200 прозвішчаў. Гэта тыя, хто звязаны з дзейнасцю міжнароднай тэрарыстычнай арганізацыі «Аль-Каіда». Але ёсць у спісе і адзін беларус. У 22 гады Гілані Лазарэвіч стаў небяспечным тэрарыстам.

Як паведамілі ў Следчым камітэце, яшчэ ў 2013-м Лазарэвіч захапіў і ўтрымліваў закладніка з мэтай атрымаць ад яго сваякоў выкуп — грошы за вызваленне. З таго часу і знаходзіцца ў вышуку.

Пра Гілані Лазарэвіча вядома мала. У дзяцінстве ён асіроцеў. Падлеткам паспеў адседзець за крадзеж. Пасля таго, як атрымаў школьны атэстат, спрабаваў атрымаць прафесію. Ён паступіў ў сталічны медыцынскі каледж, затым у Мінскі інстытут кіравання. Праўда, доўга ў навучальных установах не пратрымаўся — быў адлічаны. З 2013 года пра яго няма звестак.

**СМ**


З САЦЫЯЛЬНЫХ СЕТАК

## Сцісла

### «Газаўшчыцы» арудуюць у Маладзечне

Дзве маладыя жанчыны, прыкладна 20—25 гадоў, заходзяць у кватэру і называюцца супрацоўніцамі газавай службы. Адна з іх праходзіць на кухню, а другая застаецца ў калідоры. А пасля іх сыходу гаспадары не далічваюцца грошай. Будзьце пільнымі!

### Пагарэў на хабары

Адзін з кіраўнікоў упраўлення кантролю транспартнай дзейнасці філіяла транспартнай інспекцыі па Мінску і вобласці падазраецца ў атрыманні хабару. Па інфармацыі следчых, транспартнік не звяртаў увагу на парушэнні кіроўцам рэжыму адпачынку на дарогах. Але не за так. За сваю бяздзейнасць змог бясплатна арандаваць будаўнічую тэхніку. Заведзена крымінальная справа.

### Злівалі дызель

Следчы з Гродна заехаў на АЗС заправіцца, а ў выніку затрымаў злачынцаў. Маёр звярнуў увагу на таксіста, які заліваў паліва ў каністры, а не ў бак. У аператара ён спраўдзіў, што запраўка адбывалася па службовай магнітнай картцы. Высветлілася, што кіроўца з Магілёва прадаў таксісту 250 літраў дызпаліва, якое яму арганізацыя выдзеліла для паездкі ў камандзіроўку ў Гродна. Грошы ён меркаваў пакінуць сабе. Заведзена справа за растрату даверанай маёмасці.

### Выбух у кацельні

15 лютага ў вёсцы Кастрычнік Лагойскага раёна выбухнуў ацяпляльны кацёл у кацельні школы. Ад выбуху ў будынку павылятала шыбы. Раненні атрымаў 24-гадовы хлопец, які ў бальніцы памёр. Мяркуецца, што прычынай здарэння стала невыкананне тэхнікі бяспекі. Заведзена крымінальная справа на качагараў, якія ў момант выбуху былі ў кацельні з загінулым. Цеплазабеспячэнне адноўлена.

### Разбілася сям’я

11 лютага каля Баранавіч кіроўца на «Фальксвагене» ўрэзаўся ў фуру «Мерседэс», што ехала папутна. 32-гадовы кіроўца легкавіка загінуў на месцы. Яго 33-гадовая жонка і гадавалае дзіця шпіталізаваныя. Магчыма, жыццё ім выратавала тое, што былі прышпілены, хоць і ехалі ззаду, а дзіцё яшчэ знаходзілася і ў аўтакрэсле. Кіроўца «Фальксвагена» не вытрымаў бяспечную дыстанцыю да фуры, што прывяло да аварыі.

### Напад на калекцыянера-нумізмата

Мінчук браў удзел у сходзе клуба калекцыянераў у сталічным Палацы культуры і спорту чыгуначнікаў. Пасля сустрэчы паехаў дадому. У пад’ездзе на яго напалі: калекцыянеру некалькі разоў ударылі бітай па галаве, пасля чаго выхапілі сумку з калекцыяй манет. На крыкі выскачылі суседзі. Яны і затрымалі нападніка. Калекцыя манет, якую спрабавалі скрасці, ацэнена ў 150 мільёнаў рублёў.

### Сяржант зламаў нос салдату

У суд Барысаўскага раёна перадалі справу на 20-гадовага малодшага сяржанта. Мяркуецца, што ваеннаслужачы яшчэ ў ліпені ў казарме збіў салдата, у тым ліку зламаў яму нос. За збіццё сяржанту пагражае ад 3 да 10 гадоў калоніі.

**КМ**


СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ

# У фельчаркі хуткай дапамогі рэквізіравалі частку кватэры

Жанчына судзіцца за жыллё 15 гадоў.

Мінчанка Ала Маскоўкіна трымае ў руках стос дакументаў. «Спрабавала праравацца на прыём у Вярхоўны суд — не пусцілі, — абурэецца яна. — А за разгляд скаргі патрабуюць зноў пошліну плаціць, яшчэ тры мільёны рублёў. Што я, друкую гэтыя грошы?» Жыццё жанчыны другое дзесяцігоддзе праходзіць між судамі.

Ала змагаецца за права валодаць кватэрай, ад якой у яе адскубаюць долю за доляй. Судовыя памылкі накладаюцца на абыякавасць кантралюючых органаў, пераконвае Ала. «Вось глядзіце, у мяне забралі частку кватэры па артыкуле... рэквізіцыя», — паказвае яна рашэнне суда.

Рэквізіцыя — гэта канфіскацыя маёмасці пры стыхійных бедствах, эпідэміях і іншых форс-мажорах, яе могуць прымяняць «у інтарэсах грамадства», але нават пры такой сітуацыі былому ўласніку кампенсуюць кошт.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Паўмесяца фельчарка правяла на Валадарцы, бо «пагражала жыццю і здароўю судовых выканаўцаў»

### Падзел кватэры

Гісторыя, якая перарасла ў бясконцыя судовыя працэсы, пачалася амаль 20 гадоў таму.

У 1998-м годзе Аляксандр і Ала Чарнышовы (Маскоўкінай яна стала пазней), а таксама іх дачка Ірына пабудавалі ў крэдыт трохпакаёвую кватэру ў доме на вуліцы Ясеніна агульнай плошчай 63 м². На кожнага чалавека па тагачасных нормах выдзялялася па 20 м².

Першапачатковы ўзнос (10%) Чарнышовы зрабілі разам, але пасля сям'я развалілася. Аляксандр знік з жыцця былой жонкі, за крэдыт Ала плаціла сама. Мужа яна ўбачыла ў 2000-м, у судзе. Той патрабаваў палову кватэры.

«Суддзя мусіла дзяліць кватэру на траіх, — перакананая Ала. — На дачку выдзяляўся крэдыт, выдавалася субсідыя, у яе яшчэ і чэкі «Жыллё» былі!»

Аднак судовая практыка іншая. У карыстанне Аляксандру выдзелілі пакой плошчай 17 м² з лоджыяй, а Але з дачкой дасталіся пакоі 14 м² і 12 м².

Зрэшты, у жыцці сям'і нічога не змянілася. Хоць адзін з пакояў і належаў былому мужу, той ніякай актыўнасці не праяўляў. У кватэры не з'яўляўся, за камунальныя не плаціў. ЖЭС скардзіўся на Аляксандра, але нічога зрабіць не мог. Не выключаць жа святло ва ўсёй кватэры праз аднаго неплацельшчыка?

У дачкі тым часам знайшлі падазрэнні на анкалогію. Кватэрныя пытанні адышлі на другі план, як раптам у жыроўцы з'явілася новае прозвішча.

### Смерць былога мужа

Выявілася, што ў ліпені 2004-га Аляксандр прадаў сваю нерухомасць. Уласнікам пакоя стаў Даніл Голубеў.

Ала абурылася і звярнулася ў суд, каб прызнаць здзелку незаконнай, але марна.

У дадатак у прамежак між першым і другім пасяджэннямі суда раптоўна памёр Аляксандр. Ала мяркуе, што ў гэтай гісторыі было шмат чаго загадкавага.

Напярэдадні Аляксандр забраў у банку грошы, атрыманыя ад продажу кватэры. А пасля разам з суседзямі адзначаў дзень нараджэння сваёй новай жонкі. «Я пытаюся: а чаму гэта адбылося ў маі, калі дзень нараджэння — у красавіку? А мне адказваюць, што тады быў пост, таму і не пілі, — узгадвае Ала. — На наступны дзень 38-гадовага Аляксандра знайшлі мёртвым. 2,8 праміле алкаголю ў крыві, і гэта на 110 кг вагі. Гэта бутэлька гарэлкі, не больш. Нават у кому пры такім атручванні не трапляюць. Я працую на хуткай, мы пацыента з 9,7 праміле адкачалі!» Куды падзеліся грошы з банка, яна так і не змагла высветліць.

### Бой за пакой

Спрэчка ў судзе працягнулася без прадаўца. У выніку 17,2 м² засталіся за Голубевым. Паводле рашэння суда, ён стаў уласнікам ізаляванага пакоя. Уся астатняя плошча кватэры, уключна з месцамі агульнага карыстання — прыхожай, кухняй, туалетам, — засталіся за Алай. Як Голубеў мусіў трапляць у свой пакой? Гэта суд не патлумачыў.

«Добра, я закладваю цэглай дзверы ў гэты пакой, а вы заходзьце як хочаце. Можаце хоць праз акно залятаць», — заявіла Ала і стала трымаць абарону.

Голубеў з'явіўся каля кватэры ў суправаджэнні судовага выканаўцы, калі Алы не было дома. Аднак адчыніць дзверы не ўдалося. Суседзі пазванілі жанчыне, і тая паспела на поле боя. З хуткай яна захапіла кіслародны балончык.

Уваход у кватэру на першы раз удалося адстаяць, але гэта быў толькі час. З прыёма ў пракурора Маскоўскага раёна Алу забралі на Акрэсціна. Нібыта яна пагражала жыццю і здароўю судовых выканаўцаў, прычым не з пустымі рукамі — з вогнетушыльнікам.

Паўмесяца жанчына правяла ў КПЗ на Валадарскага. Яе прысудзілі да двух гадоў абмежавання свабоды без накіравання ў калонію.

Затое Голубеў у пакой так і не трапіў.

### Новыя суседзі

У 2012-м сусед зноў пайшоў у наступ: запатрабаваў змяніць долі ва ўласнасці так, каб ён мог карыстацца сваім пакоем, які займаў 27% плошчы кватэры. Ала пра гэта не здагадвалася, на працэс яе не выклікалі. Як патлумачылі пасля ў судзе, нібыта позву выпадкова даслалі на іншы адрас. Праўда, на пошце пацвердзілі, што дакументаў на імя Алы не паступала.

Менавіта падчас гэтага працэсу суддзя і вынесла рашэнне, спаслаўшыся на артыкул «рэквізіцыя». Як гэта было патлумачана? Суддзя адшукала велічыню пакоя былога мужа Алы і выдзеліла столькі ж Голубеву — 43% кватэры. Гэта набыты раней пакой, а таксама палова месцаў агульнага карыстання.

Пакуль жанчына абскарджвала рашэнне, яна даведалася пра з'яўленне новага суседа. «Мне прыходзяць дзве позвы. Адна пра тое, што засяляецца грамадзянін Лобаў, які купіў пакой. А другая — што засяляецца грамадзянін Шчыглеўскі, які атрымаў той самы пакой у падарунак ад Голубева. Як гэта магчыма: і прадаць, і падарыць?» — не разумее яна.

Аказалася, што Голубеў спачатку прадаў пакой Лобаву, затым той вярнуў нерухомасць гаспадару, а пасля Голубеў падарыў пакой Шчыглеўскаму. Адпаведна, 43% кватэры цяпер перайшло яму.

Але як удалося змяніць уласніка, калі не скончыліся судовыя разбіральніцтвы? Касацыйная скарга Алы згубілася ў судзе разам з чэкам аб аплаце.

Адзін з пакупнікоў прынёс на засяленне тэхпашпарт на пакой, нібыта выдадзены былому мужу Алы яшчэ дзесяць гадоў таму. Адкуль з'явіўся дакумент — невядома. Мала таго, што тэхпашпарт выдаецца на ўсю кватэру разам, а не на асобны пакой, дык у дакуменце яшчэ і быў пераблытаны нумар кватэры. Прадстаўнік кадастравага агенцтва заявіў у судзе, што такога тэхпашпарта ніколі не існавала. Аднак шукаць вінаватых у з'яўленні несапраўднага дакумента суд не стаў. «Праігнаравалі і заяву аднаго са сведкаў пра тое, што суддзя абавязала яго выдаць незаконную даведку», — узгадвае Ала.

Фельчарка па-ранейшаму спрабуе знайсці ў судах праўду, але на ўсялякі выпадак трымае кругавую абарону сваёй кватэры.

**Ягор Марціновіч**

# Як баранавіцкі суд сам сябе абвяргаў

У рэдакцыю «Нашай Нівы» звярнуўся мужчына з Баранавіч. Ён сцвярджае, што праз памылкі мясцовага суда страціў гараж і адбываў пакаранне больш, чым трэба.

Судовая эпапея Аляксандра Нямкевіча, супрацоўніка Баранавіцкай ДЮСШ па боксе, пачалася ў 2009-м. Тады яго прызналі вінаватым у незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці — мужчына рабіў еўрарамонты, не зарэгістраваўшыся як ІП, і атрымаў «прыбытак у буйным памеры». Тады суд абавязаў яго выплаціць штраф і кампенсаваць нанесеную дзяржаве шкоду — агулам каля 16 мільёнаў рублёў.

«Грошы пачалі вылічваць з майго заробку, — расказвае Аляксандр. — Я ўсё добрасумленна выплачваў, але прыкладна праз год пасля прысуду выйшаў новы закон з адваротнай сілай: «буйным прыбыткам» пачалі лічыць суму большую, чым зарабіў я. Таму з мяне мусілі зняць судзімасць і вызваліць ад адбыцця пакарання ў выглядзе штрафу.

Аднак на тое, каб разабрацца ў зменах у Крымінальным кодэксе, Баранавіцкаму суду спатрэбіўся яшчэ год — толькі ў 2011-м, пасля ліста з абласной пракуратуры, судзімасць з Аляксандра ўрэшце знялі, а разам з тым і пастанавілі вызваліць ад штрафу. Праўда, і тут зрабіць усё гладка не атрымалася — суд не мог вызначыцца, з якой даты лічыць мужчыну несудзімым: з даты пасяджэння ці з даты выхаду новага закона? У выніку судовых пастаноў аказалася адразу дзве, а потым і тры — суд такім чынам выпраўляў свае памылкі.

Урэшце пастанова аб зняцці з Аляксандра судзімасці набыла моц толькі ў 2013-м! За гэты час судавыканаўцы паспелі канфіскаваць у мужчыны гараж і прадаць яго.

«Гараж прадалі за адзін дзень! Я аб гэтым нават не ведаў, — мужчына шакаваны дзеяннямі суда. — Прыйшоў неяк, а там ужо чужы замок і сігналізацыя! Пры гэтым прададзены ён за смешныя грошы — за 6 мільёнаў! І гэта — рынкавы кошт? Хто яго ацэньваў? Рэальная цана гаража — некалькі тысяч даляраў. Я сам мог бы яго прадаць і выплаціць усё, што яны з мяне спаганялі. Але не — забралі, прадалі, і за гэты час у майго гаража змяніліся ўжо тры ўласнікі».

Праз нязгоду з продажам гаража Аляксандр Нямкевіч пісаў скаргі ў розныя інстанцыі, у выніку Баранавіцкі суд адмяніў сваё ж папярэдняе рашэнне і прызнаў таргі нядзейснымі, але пастанову аб рэалізацыі гаража не адмяніў!



Праўда, у Баранавіцкім судзе з меркаваннем Аляксандра не згодныя: маўляў, пэўныя недарэчнасці былі, але ўсё вырашылася па законе.

«Што да гаража, то суд усё рабіў правільна. Калі ў вас, напрыклад, скралі машыну і прадалі, то вы захочаце, каб злачынца вам адразу грошы аддаў, ці будзеце чакаць, пакуль ён пакрысе выплаціць? Дык вось і тут: гараж быў прададзены, каб хутка кампенсаваць шкоду, нанесеную дзяржаве», — тлумачыць старшыня Баранавіцкага суда Мікалай Кміта. Ці мог Аляксандр сам прадаць свой гараж? І чаму яго прадалі за такую маленькую суму? Тут суддзя прамаўчаў.

**Арцём Гарбацэвіч**

# Макарэвіч у Мінску: Рускіх адрознівае ад беларусаў менталітэт качэўніка

Саліст «Машыны времени» **даў закрыты канцэрт** у дзень, калі Пуцін вёў перамовы з Парашэнкам і Меркель.

Выступ Андрэя Макарэвіча ў мінскай кавярні «Лофт» 11 лютага быў экспромтам. «Нават гітара чужая», — прызнаваўся славуты расійскі рок-музыкант. Абвестак не было, але перад пачаткам каля ўваходу ў клуб стаяла чарга ў сто чалавек.

Паслухаць Макарэвіча прыйшлі жонкі палітвязняў — Марына Адамовіч і Мілана Міхалевіч, пісьменнікі Уладзімір Арлоў, Анатоль Івашчанка, Віталь Рыжкоў. «Карацей усе, хто не трапіў на сустрэчу ў Палац Незалежнасці», — жартавалі слухачы. «Ці праўда, што Вы з Пуціным памырыліся і ляцелі ў Мінск адным самалётам?» — спыталіся яны ў запісцы.

Праграмы не было, Макарэвіч на аркушы меў спіс песень, з якіх ён выбіраў дарэчную на дадзены момант.

Славутых хітоў «Машыны» спяваў мала, больш было новых песень, пра сучасную Расію, за якія прыхільнікі яго цкуюць адэпты «русского міра».


ІРЫНА АРАХОЎСКАЯ

Авацыю выклікала песня «Разговор с соотечественником»:

Только-только спокойно зажили в стране,
Как страны показалось нам мало.
И теперь я в г***е, ты в г***е, все в г***е.
Ну чего тебе, брат, не хватало?

Спяваў Макарэвіч і «К нам в Холуево приезджает Путин», і песню пра Ваньку Іванова, які сапсаваў паветра ў храме.

«У мяне ўся радня па лініі бацькі — з Беларусі, з Заходняй Беларусі», — падкрэсліваў Макарэвіч, адказваючы на пытанне пра ўражанні ад нашай краіны.

І палічыў дарэчным сказаць пра прыроду. «Каб пабачыць тое, што ў вас ёсць за 5 км ад горада, у Расіі трэба ехаць 80. І то будзе ўсё загаджана». Чаму так? Ён тлумачыў гэта менталітэтам качэўніка, які ёсць у генах расейцаў: «Качэўнік гадзіць без жалю — ён заўтра сядзе на каня і з'едзе ў іншае месца. У вас гэтага няма. Беларусы ў гэтым сэнсе большыя еўрапейцы».

Не абышлося і без заўвагі з залы за тое, што музыка казаў «Беларусія», а не «Беларусь». Макарэвіч спрабаваў інтэлігентна адбівацца: маўляў, нічога абразлівага не ўкладаў, проста так прывык.

Спявак быў някідка апрануты — у цёмна-сіні швэдар і джынсы, каротка пастрыжаны — без кучараў і вусоў-«стрэлак», якія насіў нейкі час. «Выдатна выглядаеце!» — пісалі кампліменты ў запісках. Ён пагаджаўся: ну так, вядома, нашмат лепей, чым у сюжэтах НТВ.

Пасля канцэрта была авацыя і «Костер», выкананы на біс. Маўляў, не ўсё яшчэ страчана. Як ён там казаў: «каб я не меў надзеі, я б займаўся чымсьці іншым».

Што ж рабіў лідар «Машыны времені» ў Мінску? Паводле нашых звестак, запісваў на адной з прыватных мінскіх студый песню па-беларуску для праекта «Тузін. Перазагрузка», які ладзяць партал «Тузін гітоў» і грамадская кампанія «Будьма беларусамі». Якую песню? «Будзе сюрпрыз», — кажа дырэктар «Тузіна» Сяргей Будкін.

**Сяргей Мікулевіч**

Фотафакт



АЛЕСЬ КВІТКЕВІЧ

**Кніга традыцыйных рэцэптаў беларускай кухні «Моц смаку», якую выдаў кухар каранямі з Зэльвы Юрый Качук, разышлася накладам 5000 экзэмпляраў.**

## Кампазітар Моўчан падаў у суд за выкананне песняроўскай «Малітвы»

Ён хоча спагнаць з гурту Naka **18 млн рублёў**.

Песню «Малітва» на словы Янкі Купалы і музыку Алега Моўчана, што ўваходзіла ў залаты рэпертуар «Песняроў», гурт Настассі Шпакоўскай выканаў адзін раз: на канцэрце-прэзентацыі праекту «Re:Песьняры» 12 верасня 2014. Адбывалася гэта на страх і рызыку: раней Моўчан, праслухаўшы апрацоўку гурту Naka, забараніў ім выконваць песню. Таму яна не ўвайшла ў альбом. Але на прэзентацыі было вырашана яе выканаць у знак павагі да творчасці Купалы і «Песняроў».

Арганізатар канцэрта і прадзюсар праекту Сяргей Будкін сплаціў праз Цэнтр абароны інтэлектуальнай уласнасці вызначанае законам аўтарскае ўзнагароджанне за выкананыя на канцэрце творы, у тым ліку за «Малітву». Але тое не задаволіла Моўчана, ён таксама адмовіўся прымаць 2,5 млн рублёў — суму, роўную чыстаму прыбытку з канцэрта. Моўчан тады ацаніў шкоду ў 57 млн рублёў. Бакі да згоды не прыйшлі.

Цяпер кампазітар падаў у суд не на арганізатара канцэрта, а непасрэдна на выканаўцу песні. Ён патрабуе 18 млн за парушэнне аўтарскіх правоў і скажэнне мастацкай задумы.

**Аляксандр Арсёнаў**

Сцісла

### Сокалаў-Воюш канцэртам сабраў 1860 даляраў для параненых украінскіх вайскоўцаў

Канцэрт адбыўся ў Нью-Ёрку 14 лютага. Бард Сяржук Сокалаў-Воюш праспяваў і свае знакамітыя песні — «Аксамітны летні вечар», «Верны конь», «Ніколі», «Маналог случчака», і новыя — «Песні лісоўчыкаў» і «Майдан». Пры канцы прысутныя разам запялі беларускі й украінскі нацыянальныя гімны. На канцэрце было сабрана 1860 даляраў. Канцэрт зладзіла Беларуска-амерыканскае згуртаванне «Пагоня».

### Хадановіч выдае кнігу дзіцячых вершаў

«Нататкі таткі» пісаліся пяць гадоў. Музай-натхняльніцай была дачка 42-гадовага паэта Алена. Кніга ў аздабленні мастачкі Наталлі Кійко будзе надрукаваная цягам месяца-двух. На яе ўжо цяпер можна падпісацца на сайце labadzenka.by.

**АА**

Акцыя

## Пачаўся збор сродкаў на помнік Барадуліну

Вясной яго плануюць паставіць на магіле паэта, ва Ушачах на Полаччыне. Помнік распрацаваў скульптар Мікалай Байрачны. Далучыцца да ганаровай справы можна, пералічыўшы грошы на дабрачынны рахунак, адкрыты на імя яго ўнучкі:

ААТ «Беларусбанк» філіял 514 код 614 УНП 100420097
код віда ўклада 9004 (дамова дабрачыннага рахунка №000039)
атрымальнік Кліміна Дамініка Канстанцінаўна
прызначэнне плацяжу — добраўпарадкаванне пахавання

Ажыццявіць плацеж можна ў любым аддзяленні банка і таксама праз інфакіёск і інтэрнэт-банкінг (выбраць: «Плацяжы» — «Адвольныя плацяжы» — «Плацёж па рэквізітах» — нумар транзітнага рахунка 3819382102369).

**Уладзіслаў Швядовіч**

Кіно

## Оксфарды, але не броўгі

Kingsman: Сакрэтная служба
**Жанр:** баявік, прыгоды, камедыя
**Рэжысёр:** Мэцью Вон
**У ролях:** Тэран Эджэртан, Колін Фёрт, Сэмюэл Л. Джэксан, Марк Стронг, Сафі Куксан, Майкл Кейн, Сафія Бутэла, Саманта Янус, Марк Хэміл
Вялікабрытанія, 130 хв.
**Адзнака:** 9

Эгзі прайшоў службу ў марской пяхоце і мае высокі ўзровень інтэлекту. Але цяпер хлопец абраў іншы шлях і стаў дробным злачынцам. Аднойчы ён знаёміцца з Гары Хартам, якому яго бацька калісьці выратаваў жыццё. Гары паведамляе Эгзі, што з'яўляецца агентам сакрэтнай незалежнай шпіёнскай арганізацыі Kingsman, якая мае на мэце бараніць свет ад шматлікіх пагроз. Ён прапануе хлопцу прайсці навучанне і стаць новым сябрам іх каманды. Ці зможа Эгзі справіцца з усімі выпрабаваннямі?

Сюжэт фільма заснаваны на коміксе Марка Мілара і Дэйва Гібанса The Secret Service. Брытанец Мэцью Вон, вядомы рэжысёр фантастычных баевікоў, пераўзышоў сябе і фактычна адрадзіў жанр шпіёнскага баевіка, дадаўшы ў пастаноўку ладную долю чорнага гумару. Вядома, чалавецтва чакае сусветная катастрофа, і ўратаваць ад яе вырашае злачынца-вычварэнец далёка не этычным спосабам. Прысутнічае і галоўны герой, малады і зялёны, але ў вырашальны момант ад яго залежыць існаванне чалавецтва.

Пад шчодрым слоем кпінаў і гумару закранутыя важныя тэмы: канфлікт пакаленняў, класавая сістэма англійскага грамадства, хатні гвалт, экалагічная катастрофа. Акрамя таго, глядач атрымае магчымасць палюбавацца Колінам Фёртам у незвычайным для яго амплуа супергероя: 80% трукаў акцёр выканаў сам.

Адметнасць стужкі і ў фірмовым англійскім стылі. Крама адзення




Kingsman, прыкрыццё сакрэтнай службы, капіюе сусветна вядомую краму Huntsman, якая пазычыла некаторыя прадметы для здымак. А інтэрнэт-крама Mr Porter ужо выпусціла калекцыю адзення пад назвай Kingsman: поўны набор рэчаў, якія павінны быць у гардэробе брытанскага сакрэтнага агента.

**Настасся Уласава**

# 12 урокаў беларускага войска

Аповед рэзервіста. Піша **Зміцер Канявец.**

*Маім таварышам, без якіх стойка пераносіць нягоды службы было б нашмат складаней.*


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Марозны лістападаўскі ранак. Сіні мікрааўтобус з соннымі пасажырамі праязджае шлагбаум абласнога ваенкамата. Ва ўнутраным дворыку не засталося вольнага месца. Выгрузка, пераклічка — усе, з дзясятак чалавек, мы паспешліва ўздымаемся ў будынак на трэці паверх, дзе праз доўгі калідор між кабінетамі дактароў туды-сюды шпарка носяцца каля дзвюх соцень маладых, большаю часткаю стрыжаных нагала хлапцоў. Скінуўшы да купы вопратку ў непрыстасаваным для такой колькасці людзей мікрапакойчыку, далучаемся да агульнай беганіны.

Медкамісія для нас, рэзервістаў, суцэльная фармальнасць. «Бачыш?» — пытаюцца у першым кабінеце. «Бачу!» — адказваю я. «Чуеш?» — «Чую!» — «Адхіленняў няма?» — «Ды няма...» — «Малайчына, такія нам патрэбныя!»

«Прайшоўшы» медкамісію, спускаемся на першы паверх у вялікую залу, дзе ў чаканні афіцэраў, якія забяруць кожнага з нас у патрэбную часць, бавім час за праглядам расійскага (вядома ж) ваеннага баевіка. Ахвотныя могуць наведаць мясцовы буфет з абуральна куслівымі цэнамі. Пазней нас выводзяць на вуліцу, пералічваюць, правяраюць, зноў садзяць у залу, — гэтак паўтараецца некалькі разоў. Афіцэры прыязджаюць па нас толькі ў другой палове дня.

...У прыцемку цягнік усё далей адвозіць нас ад знаёмых мясцін.

### Урок №1. Першае ўражанне

Нарэшце мы на месцы: КПП, абшары тэрыторыі, манументальнасць планіроўкі і веліч старых збудаванняў часці, сілуэты якіх вымалёўваюцца ў асвятленні начных ліхтароў, уражваюць. На плацы ў паўцемры па-заліхвацку маршыруе ўзвод салдатаў. Яшчэ некалькі ўзводаў шыхтуюцца каля будынка сталоўкі. Ад зладжанасці байцоў і адчування нейкай неаспрэчнай моцы войска перахапіла дыханне.

«Пералічы па галовах, можаш па нагах, але пасля падзеліш на два», — не без гумару капітан аддае загад старшыні. Нас размяркоўваюць па ротах і амаль адразу ж вядуць у сталоўку стракатым нязграбным статкам, які ўяна дысануе з карцінай, толькі што пабачанай.

### Урок №2. Ежа

Кіслая капуста з шчаціністым шматком мяса белага мядзведзя і сумнеўным пахам. Цяпер у беларускім войску (ад знаёмых ведаю, што не толькі ў маёй часці) звычайны рацыён зусім іншы. Розніцы паміж ежай на грамадзянцы і ў войску я не знайшоў. Супы, баршчы, плоў, бульба, макарона, салаты, усялякія кашы з неад'емным мясам ці хацяб смажанай рыбай, ёгурты і сыры, булачкі і тваражкі, а таксама цыбуля і часнык для ўмацавання імунітэту — галодным бываеш толькі пасля напружаных трэніровак непасрэдна перад абедам. А ўвогуле, ежа на 5 з 5.

Пасля сталовай вядуць у казармавае размяшчэнне роты, жылая частка якога разбітая на чатыры калідоры з койкамі — гэта так званыя кубрыкі. Прасторы ў іх вобмаль. Кожнаму вызначаюць койка-месца.

### Урок №3. Сон

Адбой у казарме зазвычай бывае а 10-й гадзіне, пад'ём — а 6-й. У кубрыках стаяць двух'ярусныя старыя койкі, даволі кампактныя, мякка кажучы, не пад волатаў. Спаць нязвыкла, ад таго вельмі нязручна, да таго ж скрыпучы і

## Класічнай дзедаўшчыны няма

разгойданы ложак адхіляецца ад найменшага руху не толькі суседа знізу, але і ад рухаў двух ложкаў, што стаяць упрытык збоку і зверху ад прыгалоўя. За ноч прасынаешся ад гайданкі з дзясятак разоў. Сваю лепту ў начны камфорт уносяць і таварышы-«тыгры» — храп якіх, што праўда, перыядычна зацікаўлівае «паляўнічага» — дзяжурнага па роце з падушкай наперавес.

Зранку ў мяне спраўджваюцца змрочныя падазрэнні мінулага вечара: месца паміж суседнімі ложкамі (70 см) хапае па-добраму толькі на дваіх, пагатоў для запраўкі другога яруса патрэбна паставіць у праход яшчэ дзве табурэткі. За 8—10 хвілін у ідэале ў звычайны дзень салдату патрэбна: скінуць коўдру на дужку ложка, злётаць у прыбіральню, пачысціць зубы, забраць свае берцы з сушылкі, апрануцца ў форму №3 (цалкам адзеты з шапкаю, але без бушлата), заслаць канвертам і адбіць (ёсць толькі дзве дзеравяшкі-плашкі на кубрык) ложак і пашыхтавацца паўзводна для паверкі і адпраўкі на ранішнюю фіззарадку. Нам пашчасціла: з прычыны неадпаведнай статуту малой прасторы на чалавека, а таксама наяўнасці ўсяго сямі ўмывальнікаў і толькі чатырох кабінак тыпу сарцір (і пары пісуараў), мы маем 15 хвілін на ўсё пра ўсё. Прызначаныя дзяжурныя пасля паверкі бягуць хутка падмятаць і мыць у кубрыку падлогу. Пасля агульнага сняданку ім таксама неабходна зраўняць усе ложкі па адной лініі і пасля — трыумф педантычнасці і маразму — зраўняць па працягнутай праз кубар ніцы ў адну лінію яшчэ і намаляваную трэцюю паласу коўдраў на двух ярусах усіх коек.

### Урок №4. «У войску ўсё павінна быць звыродліва і аднастайна»

Гэта не пажаданне — гэта неадпрэчны закон, які спачатку выклікае ў непадрыхтаванага чалавека шквал пратэстных эмоцый. Падшыва прышываецца на 12 сцяжкоў зверху, 2 з бакоў і 6 знізу — толькі так, бо адарвуць; койкі запраўлены аднолькава; падушкі квадратна адбітыя, табурэткі развернуты фронтам у адзін бок; на патыліцы абавязкова прамая лінія валасоў, г.зв. «канцік» (каб усе выглядалі аднолькава жахліва), нашэнне рэменя; завязка вузялка на шапцы; манера прышывання бірак на адзенне (месца, вугал, сцяжок ніткі, адсутнасць памятасці); рассадка на табурэтках (напрыклад, побач могуць сядзець толькі салдаты ў кіцелі або толькі ў бялузе)... Рэгламентуецца абсалютна ўсё! За парушэнне «аднастайнасці» — люты вэрхал ад сяржантаў ці больш суровае пакаранне ад афіцэраў.

### Урок №5 Мова зносін між вайскоўцамі

Агідны брудны расійскі мат з трасяначным акцэнтам спачатку выводзіць з сябе homo нязвыклага. Мат, мова люмпенаў — здаецца, гэта адзіны сродак зносін у сучаснай беларускай арміі. Абмацюкаць перад шыхтам маёру лейтэнанта або прапаршчыку сяржанта рэч тут настолькі звыклая, што і на абразы ў свой адрас хутка выпрацоўваецца сапраўдны беларускі пафігістычны імунітэт. Маладыя лейтэнанцікі, спадчынныя ваенныя, пасля ўніверсітэтаў таксама (часта ўжываючы мат нязграбна і недарэчна) намагаюцца падладзіцца пад армейскія звычаі. Зрэшты, і сам, як ні намагаешся, праз пару дзён пачынаеш кантактаваць пры дапамозе табуяванай лексікі.

Першы паўнавартасны дзень у арміі. Узвод стаіць на ўскрайку часці ля рэчавых складоў. Пранізлівы халодны вецер, нізкае шэрае неба, бетонны клятчасты плот з бітым шклом і калючым дротам, праз які адкрываецца непрывабны далягляд з рэдкім мёртвым пералескам, наяўнасць вышкі з салдатам наводзяць неадназначныя асацыяцыі. Прапаршчык дазваляе развесці невялічкае вогнішча з падножнага бруду, ад якога болей дыму, чым цяпла. Чарга па абмундзіраванне рухаецца неймаверна марудна, прытым што прымяраць даюць толькі штаны і берцы, астатняе прапар дае на вока.

Пад вечар, намерзшыся, у размяшчэнні пачынаецца сапраўдная мітусня, звязаная са здачай цывільнага адзення, атрыманнем споднягa (зімні двайны камплект кальсонаў і кашульбялуг) і падгонкай атрыманага днём абмундзіравання.

### Урок №6. Абутак і абмундзіраванне

Самае важнае, што можна зрабіць, каб пазбегнуць дадатковых праблем, звязаных з самаадчуваннем, — правільна падабраць сабе берцы. Узяць трохі большыя нават лепш. Дубовыя пяткі новага абутку ўпарта і бязлітасна адбіваюцца малатком. 30—40% усіх байцоў маёй роты за час збораў пастаянна пакутавала на крывавыя мазалі на пятках і пальцах ног. Шчыра кажучы, армейскія берцы даволі пасрэдныя: дэмісезонныя (адны на лета і на зіму), дубова жорсткія, з неадпаведнай памерам маркіроўкай.

Зімовы камплект вопраткі салдата складаецца з берцаў, штаноў, кіцеля, вушанкі і бушлата. Усё, акрамя штаноў, даволі нязручна-няспрытнае. У вушанцы, парадокс, заўсёды мерзнуць патыліца і вушы. Самавольна апусціць вушы салдату нельга: яны прыспускаюцца (глупства замацавана статутам) пры —15°, поўнасцю адкладваюцца пры —25°. Шапку лепш узяць як мага большую: будзе цяплей. Мацерныя словы ў адрас армейскіх куцюр'е выклікае адсутнасць шаліка, які, аднак, ёсць у афіцэраў, хоць тыя і меней марозяцца. Праз адкрытае горла мы, радавыя, сутулім плечы, што робіць нас падобнымі да вераб'ёў. Пад канец збораў горла было хворае абсалютна ва ўсіх, 99% байцоў паехалі дадому з кашлем і ўсякімі бранхітамі/гаймарытамі. Зімовая форма — тры з мінусам.

«Калі нам ужо адкрыюць ваенную таямніцу?» — з гумарам абураюцца таварышы на чацвёрты дзень знаходжання ў часці. З новага: звыкаем да жорсткай субардынацыі (чытай, бездапаможнасці), вонкавае праяўленне якой заключаецца збольшага ў татальным свінстве старэйшых па званні і безупыннай дэманстрацыі свайго прывілеяванага становішча перад падначаленымі. Вельмі цешыла адно — класічнай

дзедаўшчыны з рукапрыкладствам у часці не было (як амаль і паўсюль у сучаснай арміі з развіццём сродкаў запісу інфармацыі), але зацюкаць чалавека можна, і не вымаючы рук з кішэняў.

**Урок №7. Іерархія**

Асноўная маса рэзервістаў — 23—26-гадовага ўзросту, мы старэйшыя не толькі за некаторых маладых лейтэнантаў, але і абсалютна за ўсё наша непасрэднае кіраўніцтва — 19—20-гадовых сяржантаў-тэрміноўцаў. Найлепшымі сяржантамі, на мой погляд, з'яўляюцца тыя, хто ўмее выконваць свае абавязкі без асабістых эмоцый. Такія хлопцы, безумоўна, змаглі заваяваць агульную павагу, стаўшы для нас сапраўдным узорам. На жаль, гэта не тычыцца тых сяржантаў, хто выкарыстоўваў палажэнне, каб звесці рахункі і пацешыць сваю нікчэмнасць, займаючыся зняважэннем: «Нас ганялі, дык і вам камфортнага жыцця не будзе, зусім расслабіліся «духі», «Жыць тут вы будзеце па паняццях, паводле статута вас будуць толькі мець». Карціна дапаўнялася эпізодамі дробных крадзяжоў з тумбачак рэзервоўцаў вядома кім. Пад канец збораў напружанасць і нервовасць ледзь не прывяла да бойкі між сяржантам і рэзервістам (што па армейскіх законах магло скончыцца вельмі сур'ёзна). Не дзіва, што між сабой рэзервісты далі сяржантам пагардлівыя мянушкі: «пастухі», «срачнікі», «шпана» або, да найбольш задзірыстых, «петушкі».

Патрохі назіраюцца першыя выходныя. Тыповы распарадак дня пасля пад'ёму і сняданку: развод, заняткі «страявой» 3—4 гадзіны на плацы, ваенная тэорыя ў клубе, абед, фізкультурныя заняткі па поўны страўнік (звычайна бег на 1,5—2 км), агідная палітпадрыхтоўка ў клубе, зноў ваенная тэорыя ці практычныя заняткі па тактыцы, вячэра, вольны час (1 гадзіна), прагляд беларускіх ці, чамусьці, расійскіх навін, адбой... Час у арміі цягнецца вельмі марудна. Калі прачнешся а шостай гадзіне, а трэцяй дня біялагічны гадзіннік адчайна сігналізуе аб наступленні вечара. У многіх праяўляюцца лёгкія формы параноі: мне, як і многім, здаецца, што жыву ў клятай казарме ўжо не першы тыдзень, пазней, у нядзелю, пасля наведвання, пэўныя таварышы нават адзначаюць, як пастарэлі іхнія бацькі!

**Урок №8. Палітінфармаванне**

Клуб, сотні галоў павернуты ў бок вялікага экрана, дзе транслююцца кадры тэлебачання тэрарыстаў «ЛНР» — бадзёрым галасам вырадак з каскай «Прэса» паведамляе пра «апошнія хвіліны жыцця укрАў», вядзе агонь батарэя «градаў»... Манатонны закадравы голас пачынае аповед пра крываdушны Захад, зламысна арганізаваныя ім пункты нестабільнасці, каляровыя рэвалюцыі, фашысцкія рухі ля нашага парога. На фоне карцінкі з нацыянальнымі беларускімі і ўкраінскімі сцягамі гон накіроўваецца на мясцовыя адмарозкаў, «пятую калону», якую рыхтуюць бандэранацысты на базах недружалюбнай сёння Украіны... Замбаванне ідзе поўным ходам, ліюцца памыі і ахінея, мігцяць карцінкі, паказваюцца кадры з Майдану, манатонны голас працягвае грузіць міксам спаражненняў БТ (часткі пра апазіцыю) і тэлеканалаў «Россия/НТВ» (усё астатняе). У зале чуецца задаволены гул, большасць такая трактоўка падзей цалкам задавальняе, найбольш уражлівыя ўхвальна матляюць галовамі. Слова бярэ зампаліт, яшчэ раз нагадвае, што «НАТА не спіць, рыхтуюцца праваахоўцы, хутчэй за ўсё, яны будуць у раёне Гродна ці Брэста, нашай з вамі задачай у выпадку буйнамаштабнай вайны будзе ўтрыманне пазіцый да прыходу саюзнай арміі Расіі, прыдаткам якой, па сутнасці (ну вы самі разумееце), мы з'яўляемся».

Пасля працяглага афіцыёзу прапануецца задаць пытанні з залы, але тут здараецца «асечка»:

— Ці нясе салдат адказнасць за выкананне загаду, які, як аказалася пасля, быў злачынным? — першае пытанне і адразу ж у лоб.

— Калі загад падначаленаму быў аддадзены вусна (а як інакш у арміі аддаюцца загады?), то вы, верагодна, нічога не дакажаце і будзеце несці поўную адказнасць, — быццам і жартуе, з усмешкай нечакана адкрыта адказвае зампаліт.

## Беларускіх рэзервістаў прымушалі глядзець тэлебачанне «ЛНР»

— Мы прысягаем на абарону суверэнітэту і тэрытарыяльнай цэласнасці Беларусі, але ж і ўкраінцы таксама прысягалі, а іх цяпер усё за гэта «цкуюць», як жа так? — пытанне з іншага канца залы.

«Так, абсалютна слушна, але вы ж разумееце... (працяглая замінка, зампаліт падбірае словы, нарэшце яго азарае)... Нават тэкст прысягі можна сказіць для ўласнай прапаганды, бачыце, як гэтыя під*расы хахлы ўсё перавярнулі з ног на галаву!» — абураецца прамоўца.

Пачаўся лёгкі раздражнёны гул, відавочна, адказы зампаліта на гэтыя два пытанні спарадзілі ў кагосьці міні-разрыў шаблона і прымусілі задумацца.

Гэты толькі адзін з уводных заняткаў па палітпадрыхтоўцы, на астатніх было прыкладна тое ж самае, а яшчэ агіткі пра моц расійскай зброі, гераічная гісторыя беларускага войска ў складзе арміі СССР, адрозненне патрыятызму ад шкоднага нацыяналізму, сапраўдныя беларускія патрыёты, якімі мы ўсе ганарымся на прыкладзе міфалагізаванага Дзеда Талаша і Кірыла Арлоўскага).

Наступіла субота, у арміі гэта «парка-гаспадарчы дзень», мы будзем драіць падлогі ў казарме, мяняць ісподнее і, нарэшце, памыемся, а гэта значыць, што прынамсі сёння ўвечары можна будзе засынаць не пасярод невыноснага шмону потных смуродных нямытых мужчынскіх целаў (трохразовае «ўра»!).

Да абеду нас, каму патрабуецца (і каму не) паспяваюць пагаліць электрамашынкай з неверагодна тупымі нажамі. Форменны садызм і, безумоўна, мой самы горшы досвед стрыжкі.

**Урок №9. Лазня**

Хоць і збіраліся ў неймавернай спешцы, каля лазні стаім хвілін 40, мароз паспявае закруціць вушы ў трубачкі. Нарэшце ўзвод зайшоў, у вялікім пакоі трэба поўнасцю агаліцца і скінуць споднее ў азначаныя купкі, каб трапіць на 10 хвілін у вялізны калідор з душавымі. На нас, цалкам голых, ацэньліва глядзіць мілавідная жанчына-доктар. «Во праца ў бабы!» — рагоча хтосьці побач. Памыўшыся, бяру ўздел у штотыднёвай латарэі пад назваю: «Давайце мяняцца, у каго бялізна не па памеры!?». У кагосьці «калікі» трашчаць па швах, мне ж на гэты раз дастаюцца вялізныя, а на гэтым самым месцы — жоўтакарычневая пляма...

Пасля лазні зноў стаім, яшчэ даўжэй за мінулы раз, каля гадзіны. На маёй мачалцы вырастае сямісантыметровы лядзяш. Прапаршчык дае каманду нашаму ўзводу рухацца ў парк разгружаць торф. Ідзём адразу пасля лазні нанова вымазацца і папацець...

Увечары ў мяне пачынаюцца праблемы з каардынацыяй, а калі пачынае горш варыць — тэмпература. Вірус, які ходзіць па казарме з першых дзён і ўжо паклаў у санчастку некалькі таварышаў, прабіў мой саслабелы імунітэт. Дастаўшы пару нелегальных аспірынак у знаёмца (у санчасці далі б тое самае), вырашаю, што сон і заўтрашні выходны адновіць мае сілы. Не памыляюся...

Другі тыдзень — дакладная копія першага, акрамя пятніцы, дня першых стрэльбаў.

**Урок №10. Стрэльбы**

Ля збраёўні гуртуецца вялікі натоўп аднолькавых камуфляваных хітрастрыжаных людзей з канцікамі на патыліцах, атрымліваем АК-74, падсумак, пару магазінаў і ідзём таўпіцца ля капцёркі па валёнкі і ўцепленыя штаны. Настрой ва ўсіх сёння ўзняты. Пара МАЗаў давозяць нас да палігона. Доўга чакаем, закасцянелымі пальцамі адпрацоўваем на марозе прыёмы па разборцы-зборцы аўтамата. Малады маёр дае нам настаўленні па тэхніцы бяспекі пры стральбе: «Значыцца так, яўрэі, зброю ні на каго не наводзіць, тым больш зараджаную, тым больш у мой бок! Затвор не суправаджаем, закліняць патрон — адарве вушы. Калі трапілі ў мішэнь, не трэба адразу ж рабіць на прыкладзе засечкі».

Нарэшце пачынаецца, шыхтуемся пяцёркамі. «Напагатоў!», «Да бою!» — панеслася! Пятляючы, як мангольскі джэйран, дабягаю і плюхаюся на агнявы рубеж. Магазін (з 9 патронамі), засцерагач, перасмыкаю, цэлюся, засцерагач. «Да стральбы гатовы!», на адлегласці 100 метраў уздымаецца першая мішэнь. «Адзіночнымі, агонь!» Засцерагач, цэлюся — бах! (гучней, чым можна было уявіць) — куля з трасерам утварае прыгожы слупок пылу і снегу побач з мішэнню і адлятае рыкашэтам ад мерзлай зямлі дыяганаллю ўгору яшчэ метраў на 100, ого! Бах! Другая куля завальвае мішэнь. Пераключаюся на аўтаматычны агонь, за 300 метраў паўстае зусім ужо маленькі сілуэт пехацінца. Брбрбах! Траса міма. «Вышэй!» — карэктуе стральбу афіцэр. Брбрбах! Трапіў! Ура! «Рэшту ў паветра!» — два-тры патроны выстрэльваюцца, на вялікі жаль, упустую. «Стральбу скончыў!» — «Да агляду!» Здымаю магазін, кладу, каб было бачна, што ён пусты, адводжу затвор, патронаў ў ім няма. «Агледжана!» Збіраю гільзы ў рукавіцу і задаволены скачу прэч, каб прайсці дрыгасны агляд аўтамата і здаць свае гільзы. Гэты дзень варта запомніць.

Пасля вясёлай часткі, па прыездзе ў казарму, пачынаецца самае нецікавае — чыстка. Усе дэталі зброі пакрыты слоем парахавога нагару (ён больш, калі страляеш халастымі), раз'ядае метал, калі яго не адчысціць. Пры дэфіцыце масла і пеналаў з інструментам спатрэбілася шмат выкарыстаных падшывы і некалькі гадзін часу, каб сяржанты нарэшце засталіся задаволенымі якасцю нашай чысткі. Яркі ўспамін таго вечара — вельмі баляць пальцы.

**Урок №11 Прысяга**

13 снежня — адзіны дзень прысягі ў краіне. На вялізным плацы са зладжанасцю, якой я так захапляўся, калі толькі прыбыў, стаім усе мы — новае папаўненне беларускага войска. Справа за малым, фармальнасць, прачытаць тэкст прысягі перад шыхтам на вачах блізкіх і знаёмых. Не ведаю чаму, вельмі расхваляваўся, знешне гэта праяўляецца ў адсутнасці ўсякіх эмоцый на маім засяроджаным твары і пэўнай скаванасці рухаў, якая, бадай, якраз арганічна ўпісваецца ў агульную карціну. Мая чарга: выцягваючы насок, адбіваю крокі, падышоўшы да стала, адкрываю тэкст:

«Я, грамадзянін Рэспублікі Беларусь, урачыста клянуся быць адданым свайму народу...»

Скончыў, усміхаюся, прымаю віншаванне, падпісваюся, руку на цаўё аўтамата: «Служу Рэспубліцы Беларусь!» І ў шыхт. Вось і ўсё.

«Трымаюць раўненне і крочаць калоны,
Душою адчую з'яднаны атрад.
Павер, не забуду героя́ў імёны
І што бараню я святло родных хат».

«Бо я беларускага войска салдат!» — успамінаю ўрывак з песні Сяргея Макея, якую, як ні дзіўна, тут заўсёды спявае адно з аддзяленняў аўтароты (для сябе ахрысціў іх аддзяленнем нацыяналістаў; а ўвогуле, выбар шыхтавай песні залежыць выключна ад густу сяржантаў). Апроч мяне з узвода (30 салдат) прынялі прысягу па-беларуску яшчэ чалавек 5—6, гэта не многа, але ў прыватных гутарках высветлілася: большасць абралі расійскі тэкст толькі таму, што пасаромеліся зрабіць «не як усе». На жаль, былі такія, хто абраў расійскі варыянт прынцыпова, бо «на беларускай размаўляюць толькі свядомыя і адмарозкі»... Урачыстым маршам праходзім каля трыбуны з высокім кіраўніцтвам, за трыбунай тысячны натоўп з сем'яў навабранцаў. Ідзём у размяшчэнне здаваць зброю і атрымліваць «звальняшкі» ў горад, звонку вокны казармы шчыльна абляпілі цывільныя, якія назіраюць за нашымі прыгатаваннямі ўнутры: «Мы што ім, рыбкі акварыумныя?!» — агучвае агульную думку адзін з лейтэнантаў.

## З 30 чалавек узвода прынялі прысягу па-беларуску чалавек 5—6

**Урок №12, апошні. Армейскі гумар**

Цяжкасці і, мякка кажучы, абсурд натуральным чынам спараджаюць ў войску дзве скрайнасці: дзікі мат і часта такі ж дзікі гумар. Пасля толькі аднаго месяца ў войску я пераканы, што ўсе армейскія анекдоты засняваны на рэальных гісторыях. Сітуацыя, сведкам якой быў.

Ранак, дзяжурныя ў суседніх кубрыках працяглы час намагаюцца выраўнаць койкі ў адну лінію, кожны ў сваім кубары. Усё б добра, але два растапыраныя ложкі з суседніх кубараў, што стаяць недзе ў цэнтры прыгалоўямі адзін да аднаго, перашкаджаюць абедзвюм групам дзяжурных закончыць раўняць свой кубар. Калі зрабіць роўную лінію ў першым кубрыку — ложак з першага выпхне ложак ў другім кубрыку, зламаўшы раўненне ў ім, і наадварот. Скеміўшы, у чым рэч, дзяжурныя па кубрыках не прыдумваюць нічога лепшага, чым, упёршыся двума бандамі ў абедзве койкі з розных бакоў, пачаць штосілы пхаць ложкі у супрацьлеглы ад сябе бок у кубрык суседа, што спараджае ў нас, пабочных назіральнікаў, дружны рогат.

— І гэта людзі з вышэйшай адукацыяй, — заўважае адзін з сяржантаў.

— Ну! Не каб рычаг прымяніць! — справядліва адзначае рэзервіст-інжынер, які праходзіць міма.

**Эпілог**

Круглае тут носяць, а квадратнае прымусяць каціць, камфорту тут амаль няма, што фізічнага, што псіхалагічнага, парадкі амаль турэмныя, нічым гуманным тут не авалодаеш, а розуму не набярэшся — гэта і ёсць жыццё ў спартанскіх умовах. Магчыма, так трэба, каб хутчэй пазбыцца рамантычных ілюзій і зразумець сапраўдныя функцыі, якія выконвае армія. Яна не для парадаў і ўрачыстасцяў. Ці баяздольнае наша войска? На грамадзянцы чуў пра адны стрэльбы за ўвесь тэрмін і іншыя байкі — гэта не так, прынамсі ў нас усё было належным чынам, стрэльбы былі некалькі разоў (за 1 месяц), на тактычных занятках як трэба поўзалі па пузе па калюжах і гразі, да аўтамата паспяваеш звыкнуць, практыкаванні ўжо робіш спрытна, не губляючы часу на асэнсаванне загаду — шчыра кажучы, думаў, што будзе менш сур'ёзна. Пры належнай каардынацыі наша армія — гэта моц, здольная агрызацца і аказаць годны супраціў любому непрыяцелю. Адзіны сур'ёзны пралік і засмучэнне — ідэалагічная падрыхтоўка, якая насамрэч заахвочвае русафільскія настроі нават у шкоду афіцыйнай уладнай пазіцыі. Гэта і прагляд расійскіх навін, і ўсхваленне зампалітам асобы Пуціна (пры тым крытыкуючы Лукашэнку, свайго галоўнакамандуючага)...

Марозны снежаньскі вечар, КПП, стракаты шыхт (ужо не статак) рэзервістаў, якія днём пераапрануліся ў цывільнае, чакае дазволу старшага лейтэнанта пакінуць тэрыторыю часці.

— Давайце хлопцы, збор прайшоў як трэба, беражыце сябе, такія абаронцы нам патрэбныя. Чакаем вас летам!




**Беларусы ўшаноўваюць камянямі памяць гістарычных падзей. На фота: памятныя валуны на полі, дзе адбылася бітва на Уле (Чашніцкі раён). У 1564 годзе войска Вялікага Княства Літоўскага на чале з Мікалаем Радзівілам Рудым, Раманам Сангушкам і Рыгорам Хадкевічам перамагло расійскую армію князя Шуйскага. Перамога была здабытая малой крывёю і стала адной з найслаўнейшых у гісторыі беларускай зброі.**


НАСТАССЯ ХРАЛОВІЧ

**Увечары 14 лютага ў Парку дружбы народаў мінчукі запусцілі некалькі сотняў нябесных ліхтарыкаў. Удзел у рамантычным флэшмобе ўзялі і маладыя, і старыя. Ліхтарыкі можна было купіць на месцы, але дзеля гэтага трэ' было стаяць у вялікай чарзе.**



КІРЫЛА ХІЛЬКО

**11—15 лютага ў Мінску прайшоў XXII Міжнародны кніжны кірмаш. Удзел у выставе ўзялі 28 краін. Ганаровым госцем у 2015 годзе стаў Кітай. Расійскія выдавецтвы прывезлі надзва многа эзатэрычнай і антынавуковой літаратуры, а на стэндзе РФ людзі ў форме чырвонаармейцаў раздавалі георгіеўскія стужкі.**


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Фасад будынка Акадэміі навук у Мінску ўпрыгожвае новая ілюмінацыя. Яе мантаж скончылі ў студзені. Цяпер знакавы для беларускай сталіцы будынак па-новаму падсвечаны ў цёмны час сутак. Акадэмія з'яўляецца помнікам архітэктуры. Узведзеная па праекце Іосіфа Лангбарда ў 1935—1939 гг.**



## Анекдоты і жарты

* * *

Перакладчык Януковіча расказаў анекдатычную гісторыю, як той размаўляў з Абамам.

Былы прэзідэнт Украіны Віктар Януковіч перад тым, як наведаць Вашынгтон і сустрэцца з прэзідэнтам Баракам Абамам, атрымаў некалькі трэніровак па асновах англійскай мовы. Інструктаж яму даваўся наступны:

1) Калі падыдзем да Абамы, перш за ўсё трэба сказаць «How are you?» (Як Вашы справы?).

2) Абама адкажа «I am fine, and you?» (Я ў парадку, а Вы як?).

3) І вось цяпер трэба сказаць «Me too» (Я таксама).

Усё. Пасля гэтага мы, перакладчыкі, зробім усю працу. А вось што адбылося і навечна ўпісана, так бы мовіць, у аналы.

Януковіч працягвае руку і прамаўляе: «Who are you?» (Хто вы такі?).

Містар Абама крышачку шакаваны, але бярэ сябе ў рукі і са сваім фірмовым гарвардскім гумарам адказвае: «I'm Michelle's husband» (Я — муж Мішэль!).

Ну, тут ужо Януковіч спрацаваў сапраўды як вучылі: «Me too» (Я таксама!).

* * *

Стас Міхайлаў адмяніў усе канцэрты ва Украіне. Таму не трэба казаць, што Украіна нічога не дабілася.

* * *

Усе маркетолагі і мерчэндайзеры свету нямоглыя супраць мужыка са спісам пакупак.

## «НН» сто гадоў з вамі

Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы
У ціхую сінюю ноч
І сказаць:
«Бачыце гэтыя буйныя зоркі,
Ясныя зоркі Геркулеса?
Да іх ляціць наша сонца,
І нясецца за сонцам зямля.
Хто мы такія?
Толькі падарожныя, — папутнікі сярод нябёс.
Нашто ж на зямлі
Сваркі і звадкі, боль і горыч,
Калі ўсе мы разам ляцім
Да зор?»

**Максім Багдановіч**
**«НН». №7. 1915.**

**Закаханых разагналі бульдозерамі.** На вечаровай акцыі «Маладога фронту» сабралася некалькі дзясяткаў чалавек. Юнакі раздавалі стужкі колераў еўрапейскага сцяга ды палілі бенгальскія агеньчыкі. Пацалункі былі палымянымі, віншаванні і прамовы — кароткімі. Міліцыянты папярэдзілі Статкевіча, што ён будзе несці адказнасць за мітынг. Праз паўгадзіны пасля пачатку амонаўцы і снегаачышчальныя машыны выціснулі моладзь з плошчы. Нікога не затрымалі.

**«НН». №7. 2005.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7001. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 17.02.2015.
Замова №504.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614
9 771819 161008 15007